№ 23 (812) 19 чэрвеня 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




## Вежа Навагрудскага замка можа абрынуцца ў любы момант

Ці паспеюць беларусы ўратаваць гістарычную святыню? Старонка 9.

## Топ-5 самых дарагіх катэджаў Беларусі



Мільёна даляраў будзе мала. Старонка 6.

# «Старэйшы сын хоча стаць прэзідэнтам, гэта бліжэй да ісціны»

Аляксандр Лукашэнка расказаў пра ролю **свайго сына Віктара**.

18 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка быў з візітам у Кіеве. Ён вырашыў «падвешанае» з 2010 года пытанне дэмаркацыі ўкраінска-беларускай мяжы, кошт якога — каля 80 млн даляраў. А незадоўга да візіту даў інтэрв'ю «Ізвестіям ва Украіне».

Традыцыйна прагучала пытанне пра малодшага сына Колю як пераемніка. Лукашэнка таксама традыцыйна аджартаваўся: я да таго часу не дажыву. Але раптам прызнаўся пра прэзідэнцкія амбіцыі старэйшага сына Віктара:

«Папракаюць мяне [ў тым,] што старэйшы сын хоча стаць прэзідэнтам, гэта бліжэй да ісціны. Але вы вельмі правільна спыталі, ці хачу я сыну прэзідэнцкага лёсу. Не хачу. Вы не ўяўляеце, што такое прэзідэнцтва для маёй сям'і. Я хачу, каб мае дзеці спакойна жылі і каб у нас палкамі не кідалі.

Ніхто мяне не папракне ў тым, што я хачу, каб мае дзеці сталі прэзідэнтамі. Я, вядома, не змагу іх гэтага права пазбавіць, але старэйшы кажа, што яму хапае майго прэзідэнцтва».

Далей ён прызнаўся, што сын кантралюе беларускія спецслужбы, і не толькі іх.

«Мой старэйшы сын працуе маім памочнікам. Ён верны чалавек, нікому не перашкаджае. Ён — дадатковая крыніца інфармацыі для мяне. Ён прыходзіць і расказвае бацьку, што лічыць патрэбным.

У нас у Беларусі створаны кампактны Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце, у ім менш за сто чалавек. Яго кантралюе мой старэйшы сын. Ім па законе яму падкантрольная вярхушка спецслужбаў. Сын хварэе за бацьку, пракурор разумее, што ён падкантрольны, і суддзі разумеюць, што падкантрольныя».

Аляксандр Лукашэнка лічыць такую сістэму кіравання больш эфектыўнай: «Калі галава не гнілая, хвост будзе круціцца. Але я ніколі не казаў сыну: я пайду, а ты застанешся».

У свеце не так шмат краін, у якіх сын кіраўніка дзяржавы займае такую высокую пасаду, як Віктар Лукашэнка ў Беларусі. У Азербайджане, Сірыі і Паўночнай Карэі ўлада перайшла ад бацькі да сына, а ў Іраку і Лівіі дыктатары рыхтавалі дзяцей сабе ў пераемнікі.

Сыны і дочкі кіраўнікоў рабілі палітычную кар'еру таксама ў Індыі (дынастыя Гандзі), ЗША (Бушы), Пакістане (Бхута), Філіпінах (Акіна), Інданэзіі (Сукарнапутры), Паўднёвай Карэі, але там змена ўлады адбывалася дэмакратычным шляхам, а кіраўнікі краіны мяняюцца.

**Мікола Бугай**



СКРЫНШОТ З ВІДЭАЗАПІСУ

**Віктар Лукашэнка паміж кіраўнікамі ААЦ Сяргеем Шпегуном (злева) і КДБ Валерам Вакульчыкам.**



**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Падпішыцеся на другое паўгоддзе, падпішыце блізкіх!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 681-77-91, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazu дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.




## Сцісла

**У трэцім квартале Расія зноў дасць нафты па максімуме**

Аб'ём паставак нафты з Расіі на беларускія НПЗ у трэцім квартале 2013 года складзе 5,75 млн т, што адпавядае аб'ёму паставак у другім квартале.

**Юшчанка прапаноўваў Лукашэнку знайсці ягоны радавод пад Кіевам**

«Кажуць, што я часткова хахол. Наша апазіцыя знайшла мае карані паміж Чарнігавам і Кіевам. Віктар Юшчанка прапаноўваў мне знайсці мой радавод. А я казаў: навошта, якая розніца?» — так Лукашэнка сказаў у інтэрв'ю «Ізвесціям».

**Грамадзянка Конга сімулявала роды ў мінскім аэрапорце**

А затым папрасіла статус бежанца, паведамілі ў Дзяржаўным памежным камітэце Беларусі. Грамадзянкі Конга ляцелі ў Нямеччыну з Расіі, але шэнгенскія візы былі падробленымі.

**У гомельскай кавярні масава атруціліся дактары**

У інфекцыйную бальніцу пасля наведвання кавярні «Шапіто» трапілі, па розных звестках, ад 7 да 12 чалавек, у тым ліку дактары стаматалагічнай паліклінікі, якія адзначалі Дзень медыцынскага работніка.

**Жыхар Ліпецка, які назіраў за зносам будынка, зняў на відэа ўласную смерць**

Мяркуючы, што знаходзіцца на бяспечнай адлегласці, мужчына дастаў мабільнік і пачаў здымаць. У нейкі момант сцяна паддалася, і вялізны яе кавалак паваліўся, разбіўшыся на мноства аскепкаў. Цагліны адскочылі ад асфальту і хваляй паляцелі ў бок людзей. Хлопец не паспеў адхінуцца.

ЛМ

## Рэкамендуем

### Беларускамоўная іспанка, якая ніколі не была ў Беларусі

Інтэрв'ю з 20-гадовай Анхелай Эспіносай Руіз чытайце на nn.by.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

## Самае чытанае на nn.by за 12—18 чэрвеня

1 Людміла Пуціна пра сваё нешчаслівае жыццё
2 Багданкевіч пра новага памочніка Лукашэнкі: «Талковы!»
3 «Не згубіце мовы» — шакуючая сацыяльная рэклама
4 У гіпермаркеце «Карона» купцы ўбачылі пацука, той ахвотна пазіраваў
5 Расейскі турыст: Беларусь панылая, беларусы тармазнутыя
6 Справа «шпіёна з Нафтана»: дзень першы
7 Па колькасці разводаў Беларусь займае 2-е месца ў свеце
8 82-гадовую пенсіянерку будуць судзіць за ўстаноўку крыжа польскім партызанам
9 Як беларуская армія падтрымлівала «Белы легіён»
10 Лукашэнка і акуляры — фотафакт

# Шматлікія беларускія сілавікі


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Сілавікоў у Беларусі шмат, як у форме, так і ў цывільным.

Аляксандр Лукашэнка пачаў агляд сілавых структур. Спачатку ён наведаў Аператыўна-аналітычны цэнтр, праз тыдзень — Следчы камітэт. У нямногіх краінах сілавы апарат мае **такія памеры**, як у Беларусі.

Слова «сілавік» прыйшло ва ўсе мовы свету з Расіі 1990-х. Менавіта там, у той перыяд «пасля перамен» людзі са зброяй, найвышэйшыя чыноўнікі, звязаныя з міліцыяй, арміяй, спецслужбамі, набылі асаблівы ўплыў.

Што тычыцца Беларусі, то, напрыклад, на дзяржаўным агенцтве БЕЛТА пад тэгам «сілавыя структуры» можна адшукаць навіны пра МУС, КДБ, Міністэрства абароны, Следчы камітэт, ААЦ, Раду бяспекі, Камітэт судовых экспертыз, КДК, Памежны і Мытны камітэты, Генеральную пракуратуру, Службу аховы прэзідэнта.

Следам за Лукашэнкам мы таксама праводзім знаёмства з айчыннымі сілавымі ведамствамі. Прапануем звярнуць увагу на некаторых іх прадстаўнікоў.

## КДБ

КДБ мае рэпутацыю самай магутнай спецслужбы. Пры гэтым Лукашэнка бясконца тасаваў кіраўнікоў Камітэта, нярэдка даваў публічны адлуп ім (Сцяпану Сухарэнку, Вадзіму Зайцаву). Са з’яўленнем ААЦ «чэкісты» крыху страцілі ўплывовасці.

Менавіта КДБ вядзе большасць палітычных справаў. У турме КДБ знаходзіліся палітвязні пасля Плошчы-2010. Як казаў адзін з сённяшніх намеснікаў Леанід Дзядкоў, у задачы Камітэта ўваходзіць у тым ліку і барацьба з «няправільным кірункам думак».

### Прапануем звярнуць увагу: Алег Чарнышоў

Кіраўнік спецназа КДБ «Альфа». Але гэта зусім не «бык-качок». Гэта адзін з наймацнейшых інтэлектуалаў у сілавых ведамствах краіны. Шмат гадоў ён займаўся праблемамі тэрарызму, быў намеснікам начальніка Інстытута нацыянальнай бяспекі, кандыдат юрыдычных навук.

Як адзначае Святлана Калінкіна, кіраўнікі «Альфы» мяняюцца значна радзей за старшынь КДБ.



## МУС

Самае шматлікае сілавое ведамства Беларусі. Міліцыя сутыкнулася з праблемай. Заробкі супрацоўнікам трэба павялічваць, але няма чым. Таму ў МУС пачынаюцца вялікія скарачэнні. Людзей стане менш, за гэты кошт плаціць ім будуць больш.

У структуру МУС уваходзяць не толькі оперы, але і ўнутраныя войскі (спецназы), якія і выкарыстоўваюцца ў «бруднай справе» разгону акцый пратэсту і фізічных рэпрэсій супраць іншадумцаў.

### Прапануем звярнуць увагу: Юрый Караеў

Намеснік міністра, камандзір унутраных войскаў. Караеў паспеў пакамандаваць як мінскім спецназам, так і ўручанскім з часткі 3214, якой раней кіраваў Дзмітрый Паўлічэнка. Вядома, што цеснае знаёмства звязвае яго з ахоўнікам прэзідэнта Андрэем Уцюрыным і яшчэ адным былым спецназаўцам Юрыем Падабедам. Дарэчы, Падабед пасля сыходу з дзяржслужбы знайшоўся ў службе аховы кампаніі «Трайпл», г.зн. мультымільянера Юрыя Чыжа.



## Міністэрства абароны

Ніколі не прэтэндавала на лідарства сярод сілавікоў. У барацьбу за ўплыў і кантроль над бізнесам не ўмешваліся ні дасведчаны Мальцаў, ні былы ахоўнік Лукашэнкі Жадобін. У беларускім войску ёсць асобныя ўзорныя часткі, якія могуць не саступаць НАТАўскім, аднак у большасці беларуская армія захавала традыцыі, а разам з імі і заганы Савецкай арміі — спадзяванне на «авось», савецкую этыку, п’янства.

Пры гэтым грамадства армію любіць — армію любяць ва ўсіх краінах свету.

### Прапануем звярнуць увагу: Алег Дзвігалёў



Намеснік міністра, камандуючы ВПС Беларусі. Ягоная пасада крыху нагадвае сядзенне на парахавой бочцы. Ён ужо чацвёрты кіраўнік ВПС за тры гады. Ігара Азаронка пасадзілі ў турму, Сяргея Лемяшэўскага звольнілі з фармулёўкай «за правіны, што дыскрэдытуюць званне ваеннаслужбоўца», Дзмітрыя Пахмелкіна — за шведскі «медзведзіроўшчык». Што будзе з 48-гадовым ураджэнцам выспы Вітэ Алегам Дзвігалёвым?

## Следчы камітэт

Аналаг амерыканскага ФБР. Раней следчыя працавалі пры Генеральнай пракуратуры. У Следчы камітэт сабралі сапраўды найлепшых прафесіяналаў сваёй справы.

У палітычных расправах СК пакуль сябе не заплямііў. Станаўленне камітэта праходзіла пад кіраўніцтвам сённяшняга старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка.

### Прапануем звярнуць увагу: Валянцін Шаеў



Старшыні Следчага камітэту яшчэ далёка да пенсіі, а гэта значыць, што ён яшчэ можа пайсці на павышэнне. Зрабіў кар’еру ў Віцебскай і Гомельскай абласцях з іх высокім узроўнем злачыннасці, а не ў цэнтральным апараце пракуратуры. Калегі характарызуюць яго як «добрасумленнага і стараннага супрацоўніка».

## Аператыўна-аналітычны цэнтр

Самая таямнічая спецслужба краіны. Выказвалася меркаванне, што ствaралася па ініцыятыве Віктара Лукашэнкі як супрацьвага КДБ. «Чорная сотняй» гэтая арганізацыя не стала. Гэта хутчэй інтэлектуальны цэнтр.

Вядома, што ў прамыя абавязкі ААЦ уваходзіць кантроль за інтэрнэтам. Зрэшты, рэпрэсійных крокаў у гэтым кірунку заўважана не было. Па словах Лукашэнкі, у цэнтры працуе менш за 100 чалавек. Цэнтр сядзіць у непасрэднай блізкасці да Адміністрацыі прэзідэнта — у будынку былой Нацыянальнай бібліятэкі на Кірава.

### Прапануем звярнуць увагу: Уладзімір Рабаволаў



Менавіта вакол яго запрашэння на канферэнцыю АБСЕ ў Вену зламалі шмат дзідаў. Звяртае ўвагу той факт, што гэты чалавек адкрыты для кантактаў нават з незалежнай прэсай. Што кантрастуе з кіраўніком ААЦ Сяргеем Шлегуном, які застаецца ў цяні.

## Рада бяспекі

Менавіта гэтая структура кантралюе і каардынуе дзейнасць усіх праваахоўных органаў, рыхтуе аналітычныя запіскі на імя Лукашэнкі. Праз Раду бяспекі прайшлі ключавыя асобы ў атачэнні кіраўніка краіны — Віктар Шэйман, Урал Латыпаў, Генадзь Нявыглас. Сённяшні старшыня Леанід Мальцаў хоць і з’яўляецца інтэлектуальна моцным, але не мае такога ўплыву, як ягоныя папярэднікі.

### Прапануем звярнуць увагу: Віктар Лукашэнка

Старэйшы сын кіраўніка дзяржавы заняў другое месца ў рэйтынгу «НН» самых уплывовых людзей краіны. Ягоны ўплыў вялізны. Менавіта Віктар кіруе сілавікамі.



Працяг на старонцы 4.

# Шматлікія беларускія сілавікі

Працяг са старонкі 3.

## Камітэт судовых экспертыз

Наймаладзейшая сілавыя структура. Утвораная толькі ў красавіку сёлета. Гэтае ведамства аб'яднала экспертаў падраздзяленняў МУС, МНС, войска, Мінюста. Адной з прычын стварэння камітэта называлася эканомія грошай. Бо цяпер сродкі на экспертызы будуць ісці толькі ў адно месца. Дый штат будзе істотна меншым, чым ва ўсіх структурах разам. «Ежедневник» назваў камітэт судовых экспертыз яшчэ адной «ваенізаванай» структурай.

**Прапануем звярнуць увагу: Андрэй Швед**



Адзін з найбольш перспектыўных следчых. Некалі Лукашэнка аддаваў належнае ягонаму прафесіяналізму. Зорным часам Шведа стала расследаванне справы аб выбухах у мінскім метро. У найвышэйшых эшалонах працу палічылі ўзорнай, хоць у незалежных назіральнікаў заставалася шмат пытанняў. Цяпер Швед узначаліў новы камітэт.

## Памежны камітэт

Аляксандр Лукашэнка быў памежнікам, і з гэтай простай прычыны цяпер памежнікі ў фаворы. Іх даволі многа ў розных іншых сілавых ведамствах.

Ні ў адной іншай краіне яны не маюць такога прэстыжу. Ну, памежнікі і памежнікі. «Ідэальны памежнік максімальна падобны да каменя, фізічна і інтэлектуальна», — пакепліваюць з іх калегі-мытнікі.

**Прапануем звярнуць увагу: Юрый Церцель**

Начальнік пагранічнага спецназа — АСАМа (Асобная служба актыўных мерапрыемстваў). Юрый Церцель не свеціцца на экранах, яго толькі нядаўна паказалі ў фільме, прысвечаным 20-годдзю АСАМа. З пасады начальніка АСАМа выходзілі Генадзь Нявыглас і Ігар Рачкоўскі. У АСАМе служылі Віктар



і Дзмітрый Лукашэнка. Дарэчы, у КДБ служыць Іван Церцель, ці не брат Юрыя.

## Мытны камітэт

Праз гэтае ведамства плывуць мільярды грошай. Усё праходзіць праз мытню: і дарагія энерганосьбіты, і шмоткі.

«Калі ты адпрацаваў пяць гадоў на мытні і не збудаваў сабе катэджа, значыць, ты нейкі ненармальны», — жартавалі ў Гродне і Брэсце, дзе мытня доўгі час была залатым дном, Эльдарада, якое спакусіла і прывяло ў турму не адну сотню людзей. Даходзіла да таго, што сумленныя мытнікі стараліся перайсці з аўтамабільных пераходаў на чыгуначныя. Там было менш шанцаў сутыкнуцца з інтарэсамі карупцыйных груп.

Мытнікі шмат разоў трапялі ў карупцыйныя скандалы. Пракурор Святлана Байкова вяла справу супраць брэсцкіх мытнікаў, а ў выніку сама села ў турму. Мытнікі ў Брэсце былі шырмі схемамі цесна звязаныя з КДБ.

Па меры развіцця рынкавых адносін экспартна-імпартныя аперацыі сталі лепш рэгуляваца, стала менш лазеек, і ў апошнія гады крымінальных справаў на мытні таксама паменела.

**Прапануем звярнуць увагу: Аляксандр Шпілеўскі**



Старшыня камітэта. Скончыў Вышэйшую школу КДБ. Нямнога засталося чыноўнікаў, якія б займалі сваю пасаду нязменна на працягу апошніх 12 гадоў. Шпілеўскаму ані ў знак скандалы і звальненні. Ён ужо, дарэчы, дасягнуў пенсійнага ўзросту, але такіх людзей проста так не спісваюць.

## Генеральная пракуратура

Магчымасці гэтай структуры ўплываць на ход крымінальных справаў зменшаныя. Гэта ўдарыла па карумпаваных пракурорах.

Спачатку частку абавязкаў забралі МУС і КДБ. Яшчэ больш ўдар па пракуратуры быў нанесены стварэннем Следчага камітэта, які забраў асноўныя справы.

**Прапануем звярнуць увагу: Аляксей Стук**



Быў пракурорам на працэсе Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Некалькі разоў запляміў сябе выпісваннем ордараў на ператрусы ў іншадумцаў і ў офісах незалежных СМІ. Намеснік генеральнага пракурора.

## Камітэт дзяржкантролю

Пасля таго, як да КДК далучыўся Дэпартамент фінансавых расследаванняў, камітэт фактычна пераўтварыўся ў асобную спецслужбу. Ягоная роля большая, чым была ў Камітэта народнага кантролю ў савецкі час.

Фінансавая міліцыя затрымлівала многіх чыноўнікаў і бізнесменаў. Гэта структура, якой рэальна баяцца.

**Прапануем звярнуць увагу: Ігар Маршалаў**



41-гадовы намеснік дырэктара Дэпартамента фінансавых расследаванняў. Палкоўнік фінансавай міліцыі. Зямляк Лукашэнкі. Шмат гадоў адпрацаваў у Гомельскай вобласці. Летась быў пераведзены ў Мінск. Дарэчы, крэсла дырэктара Дэпартамента на сёння пустуе, Маршалаў адзін з галоўных прэтэндэнтаў, каб яго заняць.

## Служба аховы прэзідэнта

З абавязкамі гэтай структуры ўсё абсалютна зразумела ўжо з назвы. Вядома, што яна падзяляецца на проста ахову (сочыць за аб'ектамі, дзе знаходзіцца кіраўнік краіны) і асабістую ахову. Больш прэстыжным лічыцца быць у асабістай ахове.

Дакладных лічбаў аб штаце службы аховы Лукашэнкі няма, аднак колькасць целаахоўнікаў, якія перамяшчаюцца следам за кіраўніком дзяржавы, вялізная. А ёсць жа яшчэ службы, якіх не бачна. Магчыма, Служба аховы дублюе і ўзаемакантралюе іншыя спецслужбы. У сваіх выступах Лукашэнка не раз называў Службу аховы крыніцай інфармацыі па тых ці іншых тэмах.

Штаб-кватэра Службы аховы месціцца ў някідкім, але ёмістым будынку былога Штаба грамадзянскай абароны на вуліцы Бабруйскай, каля вакзала.

**Прапануем звярнуць увагу: Андрэй Уцюрын**



Ён заўсёды на людзях сядзіць побач з Віктарам Лукашэнкам. Нарадзіўся ў Пензе, але гадаваўся ў Беларусі. Яго бацька быў кіраўніком спецназа 3214. Служба аховы — добры плацдарм для найвышэйшых прызначэнняў. Прыклады Бародзіча і Жадобіна гэта пацвярджаюць.

**Падрыхтаваў Зміцер Панкавец**

# Былы шэф КДБ узначаліў «Космас ТБ»

**Аператар належыць беларускай дзяржаве і расійскаму мільярдэру Віктару Вексельбергу.**

На пасаду гендырэктара кампаніі па прапанове беларускага ўдзельніка прызначаны Вадзім Зайцаў, ад 2008 да 2012 — старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

Сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Космас ТВ» створанае ў 1993. Сузаснавальнікамі прадпрыемства выступаюць з беларускага боку ўнітарнае прадпрыемства «Беларускі радыётэлевізійны перадавальны цэнтр», з брытанскага боку «International Telcell, Inc».

Цяпер 50% акцый валодае беларуская дзяржава, астатнія 50% кантралюе расійскі мільярдэр Віктар Вексельберг. Кампанія «Космас ТБ» прапануе паслугі эфірна-кабельнага тэлебачання і кабельнага тэлебачання, хуткасны доступ у Інтэрнэт.

Вадзім Зайцаў застаецца ў спісе асобаў, уезд якіх у Еўрасаюз забаронены па падазрэнні ў саўдзеле ў парушэннях правоў чалавека ў Беларусі. Менавіта Зайцаў быў старшынём Камітэта, калі ў ізалятары КДБ знаходзіліся арыштаваныя за Плошчу. Многія з іх заявілі аб катаваннях у часе следства.

**АГ**

Арыштаваных кандыдатаў у прэзідэнты прыводзілі ў кабінет да Зайцава »



# Гайдукоў «шпіёніў» на ЗША?

**У амерыканскім пасольстве справу ніяк не каментуюць.**

12 чэрвеня ў Віцебску пачаўся закрыты суд над апаратарам «Нафтана», абвінавачаным у «здрадзе дзяржаве». 23-гадоваму Андрэю Гайдукову пагражае ад 7 да 15 год турмы.

### Дзіўны ліст ад Гайдукова

Напярэдадні суда каардынатарка хрысціянскай дэмакратыі па Віцебскай вобласці Тацяна Севярынец атрымала ад Гайдукова вялікі ліст. Ліст, дарэчы, прыйшоў з Віцебскага СІЗА. Гэта значыць, яго не заўважыла ці адмыслова прапусціла міліцэйская, а не КДБшная цэнзура.

Гайдукоў піша: «Я абвінавачваюся ў тым, што мог пагражаць нацыянальнай бяспецы, што характарызуецца як замах на канстытуцыйны лад Рэспублікі Беларусь; навязванне Рэспубліцы Беларусь палітычнага курсу, які не адпавядае яе нацыянальным інтарэсам. Характар магчымай шкоды можа выражацца ў дэстабілізацыі сацыяльна-палітычнай сітуацыі. У тым, што шукаў фінансаванне на сваю дзейнасць у фондзе пасольства ЗША (ЦРУ ЗША, па версіі КДБ).

Таксама ў тым, што заклікаў да ўвядзення візавых санкцый у дачыненні да асобных катэгорый дзяржслужбоўцаў. Апроч таго, па версіі КДБ, маё меркаванне можа пагражаць эканамічнай сітуацыі (!) у Рэспубліцы Беларусь».






У пасольстве ЗША «Нашай Ніве» паведамілі, што справу Анрэя Гайдукова яны не каментуюць. Што да праграмаў пасольства, то інфармацыя аб гэтым ёсць на іх сайце.

Гайдукоў піша таксама, што ў матэрыялах яго крымінальнай справы не фігуруюць аніякія «замежныя прадстаўнікі». А таму падставаў рабіць суд закрытым няма.

Яўген Канстанцінаў, старшыня незарэгістраванага Саюза інтэлектуалаў, так каментуе ліст Гайдукова: «Мяне вельмі здзівіла, што ліст прапусцілі. Па сутнасці, прызналі, што справа Андрэя цалкам палітычная, а не шпіёнская».

### Закрыты суд: здымаць нельга нават на ганку

У першы дзень суда падтрымаць Гайдукова прыехала пятнаццаць чалавек, уключна з журналістамі. Пераважна мясцовыя актывісты і праваабаронцы. Пабачыць Гайдукова не ўдалося. Пасля таго, як мікрааўтобус з ім заехаў ва ўнутраны дворык, высокія вароты адразу ж зачынілі.

Ля суда журналістам перашкаджалі рабіць фота і відэаздымку. Калі карэспандэнткі «Нашай Нівы» паспрабавалі ўзяць камэнтар у праваабаронцы Паўла Левінава, падышоў нейкі чалавек, які ўдаваў глуханямога і паводзіў сябе неадэкватна, жэстамі паказваючы, што нельга здымаць. Левінаў склаў у сувязі з гэтым скаргу ў пракуратуру.

Вядома, што ўжо дапыталі сведку Іллю Багданава. Аднак дэталяў ён не расказвае, бо знаходзіцца пад падпіскай аб неразгалошванні.

Вядома, што ў якасці сведкі выклікалі Вольгу Гайдукову, маці Андрэя. Апошні раз свайго сына Вольга Гайдукова бачыла 7 месяцаў назад, перад затрыманнем.

Не выключана, што суд можа зацягнуцца яшчэ на тыдзень, кажуць адвакаты. Таксама яны паведамілі, што хлопец трымаецца спакойна, але паранейшаму не зусім здаровы: гаварыць не можа праз кашаль. У зале суда яго трымаюць у жалезнай клетцы.

Дзяржаўныя СМІ не засяроджваюць вялікай увагі на гэтай крымінальнай справе. Праваабаронцы будуць прымаць рашэнне: ці прызнаваць Гайдукова палітвязнем, будзе вырашана ўжо пасля прысуду.

**Аксана Рудовіч, Віцебск — Мінск**

# «Я не хачу жыць у свеце, дзе ўсё, што я раблю і гавару, запісваецца»

**Аб перахопе спецслужбамі ЗША мэйлаў і праслухоўванні тэлефонаў** расказаў 29-гадовы супрацоўнік Агенцтва нацыянальнай бяспекі.

Эдвард Сноўдэн кіраваўся сумленнем. Дзеля раскрыцця інфармацыі ён пакінуў працу, на якой зарабляў 200 тысяч даляраў за год.

Сноўдэн сказаў газеце, што «не мог дапусціць, каб урад ЗША падрываў прыватнае жыццё, свабоду ў інтэрнэце і асноўныя правы людзей ва ўсім свеце з дапамогай гіганцкай, таемна збудаванай шпіёнскай машыны».

Хлопец кажа, што зліў інфармацыю ў СМІ пасля «доўгіх і цяжкіх роздумаў»: «Я не хачу жыць у свеце, дзе ўсё, што я раблю і гавару, запісваецца, і не хачу суўдзельнічаць у выбудове гэтага».

Раней паведамлялася, што амерыканская тэлекамунікацыйная кампанія Verizon Communications павінная штодня перадаваць Агенцтву нацыянальнай бяспекі ЗША звесткі аб тэлефанаваннях мільёнаў кліентаў.



Цяпер Эдвард Сноўдэн знаходзіцца ў Ганконгу і спадзяецца, «што ўлады не выдадуць яго Злучаным Штатам». Калі не Ганконг, то, спадзяецца ён, прытулак яму можа даць Ісландыя.

Сноўдэна можна параўнаць з Брэдлі Мэнінгам, які выклікаў скандал з Вікіліксам.

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

### У гіпермаркеце «Карона» купцы ўбачылі пацука

Гіганцкі грызун поўзаў па фіранцы ў павільёне кампаніі «Вэлком». У гандлёвым цэнтры на Кальварыйскай адмаўляюцца каментаваць інцыдэнт.

### Камуністы — за Альгерда

Бюро абкаму КПБ выступіла з заявай, дзе падтрымлівае ўсталяванне ў Віцебску помніка вялікаму князю Альгерду. Раней некалькі прадстаўнікоў «расейскай грамадскасці» звярнуліся да Лукашэнкі з просьбай перашкодзіць усталёўцы помніка.

### Шакуючая сацрэклама

У інтэрнэце з'явіўся ролік «Куды знікла прыгажосць?» у абарону беларускай мовы. Ён быў зняты ў межах некамерцыйнага праекта admova.by. Ролік створаны ў шакуючым зомбі-стылі. Глядзіце на nn.by.

### Мінчук задэклараваў 66 мільярдаў рублёў прыбытку

Найбольшы задэклараваны гадавы даход за 2012 у Беларусі склаў 66 мільярдаў рублёў, што адпавядае сямі з паловай мільёнам даляраў. Хлопец зарабіў гэтыя грошы на гандлі акцыямі.

**ЛМ, КХ**

# Мільёна даляраў будзе мала

**Топ-5** самых дарагіх катэджаў Беларусі.

Сталічная нерухомасць працягвае імкліва даражэць. Цана квадратнага метра падбіраецца да $1650, і гэта далёка не мяжа, бо попыт па-ранейшаму перавышае прапанову. У такіх умовах самыя танныя кватэры каштуюць не танней за $50 тысяч, а цэны на элітнае жыллё ўзлятаюць да нябёсаў.

«Наша Ніва» склала рэйтынг самага дарагога жылля Мінска. Летась, калі мы публікавалі падобны спіс, цана на прыватныя дамы не перавышала $2 мільёны. Цяпер самы дарагі катэдж прадаецца за $2,2 мільёна. Каб сабраць такія грошы, маючы сярэдні заробак і сплачваючы падаткі, беларусу давядзецца працаваць 373 гады!

**Ягор Марціновіч**

**Нядоўга музыка грала**

Летась самая дарагая кватэра ў Мінску каштавала $3,5 мільёна. Такі цэннік выстаўляла за двухузроўневыя апартаменты ў новабудзе на вуліцы Кісялёва кампанія «Перспектыва-Інвест» бізнесмена Сяргея Дземчука. У снежні 2012 ён, абвінавачаны ў махлярстве, трапіў у калонію строгага рэжыму. Ягоны прысуд — 8 гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці.

## 1. Новабуд з голымі сценамі

Цана — $2,2 мільёна.

Дом на першай берагавой лініі Цнянскага вадасховішча прадаецца па рэкорднай цане. Спачатку трэба заплаціць мільёны за прыгажосць прыроды — побач лес і рака, а пасля яшчэ ўкласці круглую суму ў рамонт. Катэдж за шалёныя грошы прадаецца з голымі сценамі.

У доме агульнай плошчай 767 м² два паверхі, падвал і гараж. На першым паверсе выдзеленае месца пад веранду, кухню-сталовую і басейн, на другім праекціроўшчыкі запланавалі чатыры жылыя пакоі, рабочы кабінет, гардэробную і тры санвузлы.

Пад агуркі ды памідоры ёсць яшчэ 10 сотак.





## 2. Дом, дзе госці жывуць асобна

Цана — $2,2 мільёна.

У дом у Навінках можна засяляцца хоць адразу. Прапанова незвычайная — на ўчастку плошчай 20 сотак адразу два жылыя збудаванні. Гэта чатырохузроўневы катэдж гаспадароў і двухпавярховік для гасцей. Агульная плошча — 950 м²!

На ўчастку ўжо папрацаваў ландшафтны дызайнер — ручай, кветкі, кусты і елка пасярод двара. Катэдж прадаецца з аздабленнем — ад більярднага стала і басейна да зімовага сада і спальняў з балдахінамі.

## 3. Катэдж на плошчы Перамогі

Цана — $2,1 мільёна.

Двухпавярховік у ціхім месцы на Вайсковым завулку — некалькі хвілін пешшу ад плошчы Перамогі — запісаны ў рэкламных каталогах амаль год. Але купцоў мала праз завысокую цану. Агульная плошча дома складае 300 м², гэта значыць, квадратны метр у ім каштуе $7000.

«Сталінкі» ў гэтым месцы давалі чыгуначнаму начальству, дзве-чатыры сям'і на дом. Але ў гэтым выпадку цяперашняму гаспадару ўдалося атрымаць ва ўласнасць абедзве кватэры. Прадаўцы элітнай нерухомасці арыентуюцца на расійскіх пакупнікоў. Аднак і тыя не гатовыя плаціць за кватэры і катэджы мільёны даляраў.








## 4. Катэдж з цёплым басейнам на двары

Цана — $1,9 мільёна.

У гэтым катэджы плошчай 430 м² на Дароўскім завулку з гасцёўні можна скочыць проста ў ваду, хоць эксплуатацыя басейна ў зімовы і вясновы час выклікае шмат пытанняў. Мэбля, тэхніка, саўна, кіназала ды більярдная — у цану ўключана ўсё.

Але найбольш каштуе прэстыжнае месца — побач Дразды, наменклатурны рай лукашэнкаўцаў.



## 5. Лясны дом у Ждановічах

Цана — $1,8 мільёна.

Самы дарагі катэдж за межамі мінскай кальцавой знаходзіцца ў Ждановічах. Зрэшты, гэта ўсяго за пару кіламетраў ад горада. Тут прадаецца трохузроўневы дом у лесе.

Звяртае на сябе ўвагу арыгінальны архітэктурны праект — яркая цэгла кідаецца ў вочы здалёк. Хапае цікавостак і ўнутры, напрыклад, падвясная лесвіца на другі паверх. У катэджы зроблены еўрарамонт, аднак мэблі пакуль мала, давядзецца дакупляць.

# За два месяцы — тры смяротныя прысуды

**Гісторыі чалавечага падзення.**

Летась у Беларусі ні адзін злачынца не быў прыгавораны да расстрэлу. Сёлета ўжо трое асуджаныя да «вышкі».

### Прайграў жыццё ў даміно

Спачатку судзілі зэкаў у Магілёўскай турме №4. Двум забойцам не хапала адрэналіну. Яны вырашылі разнастаіць гульню ў даміно: на кон паставілі свае жыцці. Паколькі абодва сядзелі за забойствы, то палічылі, што загінуць ад рук сукамерніка будзе не сорамна. Калі ж старэйшы выйграў, то вырашыў нібыта дараваць маладому жыццё. Але той палічыў, што доўг, хай сабе і не картачны, трэба выплачваць. І прыгразіў «заваліць» пераможцу, калі той не здолее стрымаць слова.

Забойства адбылося 4 ліпеня 2012 пасля адбою. Каб не аднаму адказваць, зэк у саўдзельнікі ўзяў трэцяга сукамерніка, таксама на дваццаць гадоў маладзейшага. Той і ў даміно не гуляў, але ці то адмовіцца не рашыўся, ці то ў яго самога з'явіўся азарт. Хлопец сядзеў за згвалтаванне, а на зоне такія злачынствы не ў пашане.

Старэйшы душыў шалікам, малады трымаў ахвяру за ногі.

Старэйшага расстраляюць, маладзейшаму далі 16 гадоў.

### 102 удары «крыўдзіцельцы»

25-гадовы гамяльчук не паспеў пабыць на волі, як зноў трапіў за краты. Першы раз ён збіў сужыцеля маці, а той памёр. Шэсць гадоў правёў па зоне. Калі пасля выхаду сустрэўся з цывільнай кампаніяй, паспеў забыцца на джэнтльменскія паводзіны. Кпіны з боку дзяўчыны ён сцярпеў, але затаіў крыўду. А калі праз тры месяцы сустрэў сваю «крыўдзіцельку» ноччу ў аўтобусе, адразу прыдумаў план помсты. Выскачыў з аўтобуса і стаіўся каля шматпавярховіка. Калі ж дзяўчына праходзіла побач, накінуўся на яе з нажом. Ударыў яе 102 разы. Дзяўчына крычыла, але ніхто не дапамог.

Хлопца прызналі псіхічна ўраўнаважаным, хаця ён і пакутуе на змяшанае расстройства асобы. І судзілі. На «вышцы» настойваў пракурор. Суддзя падтрымаў.

Ужо на працэсе хлопец паспрабаваў адпомсціць і сваёй сужыцельцы. Сказаў, што яна была з ім у змове: падбухторвала да забойства (ехалі яны ў тым аўтобусе разам), а калі ён вярнуўся ў крыві, дапамагла пазбавіцца ад нажа і адмыць аддзенне. Але пракуратура не пацвердзіла гэтыя факты. А ўсё спісала на помсту за тое, што дзяўчына адвярнулася ад яго ўжо пасля арышту.

Гамяльчук ў апошнім слове папрасіў прабачэння ў мамы забітай. Толькі нават самыя шчырыя словы не могуць ажывіць чалавека.

### Насіў галаву з сабой

23-гадовага вілейчука асудзілі на расстрэл за забойства з асаблівай жорсткасцю. Заспеўшы маладую жонку побач з іншым мужчынам, ён разабраўся з абодвума.

Усё адбылося ў жніўні ў адным з маласямейных інтэрнатаў Гродна. Раўнівы муж, як у фільме жахаў, забіў дзяўчыну, а затым і каханка. Прычым апошняга расчляніў і вынес па частках на бліжэйшы сметнік. А галаву забраў з сабой. Так яна і ляжала ў яго ў сумцы, калі міліцыя яго затрымала.

Спачатку падумалі, што галаву ахвяры ён узяў для рытуалу. Але высветлілася, што хлопец ніякі не сатаніст, а забойства было пабытавым. А вілейчука прызналі адэкватным, хоць яго ўчынак не ўпісваецца ў паводзіны нармальнага чалавека.

Беларусь — адзіная еўрапейская краіна, у якой смяротнае пакаранне захавалася. Украіна, Польшча, Літва і Латвія адмянілі яго яшчэ ў 1990-м. У Расіі заканадаўча яно замацаванае, але дэ-факта ўведзены мараторый: не асуджаюць на расстрэл.

Па статыстыцы Міністэрства ўнутраных спраў, у краіне з 1990 па 2011 вынесеныя 326 смяротных прысудаў. Пік прыпаў на 1997 і 1998 гады — 47 і 48 адпаведна. У 2010 на расстрэл асудзілі 2 чалавекі, 2011 — 3, летась — нікога.

Адмена смяротнага пакарання з'яўляецца ўмовай для ўваходу Беларусі ў Раду Еўропы. У 1993 годзе беларускі парламент атрымаў статус спецыяльнага запрошанага ў ПАСЕ, але ўжо ў 1996-м быў пазбаўлены гэтага статусу пасля рэферэндуму, які ўзаконіў смяротную кару.

**Кастусь Матушыч**

## Вышук

15 чэрвеня з папраўчай калоніі №11 у Ваўкавыску **збеглі трое асуджаных**.



**Багачоў Юрый Віктаравіч, 1978 года нараджэння.** Асуджаны за крадзеж на 2 гады. Раней судзімы. Прыкметы: рост 170 см, валасы цёмныя, вочы блакітныя, бровы густыя. Зарэгістраваны ў г. Барысаў Мінскай вобласці.



**Купрыновіч Аляксандр Васільевіч, 1980 года нараджэння.** Асуджаны за крадзеж на 2 гады. Раней судзімы. Прыкметы: рост 175-180 см, хударлявы, валасы русыя, бровы рэдкія. Зарэгістраваны ў в. Ласі Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.



**Арбачаўскас Іван Вітольдавіч, 1988 года нараджэння.** Асуджаны за крадзеж і крадзеж з дапамогай камп'ютарнай тэхнікі на 3 гады. Раней судзімы. Прыкметы: рост 165-170 см, хударлявы, валасы русыя. Зарэгістраваны ў г. Шчучын Гродзенскай вобласці.

**Хто ведае месцазнаходжанне збеглых, тэлефануйце на: (1512) 2-50-38, (1512) 7-51-05 альбо 102.**

# Маладая мінчанка згарэла ў сваім доме

Заснула ўсяго **за гадзіну да пажару.**



Раніцай 15 чэрвеня ў Мінску згарэў прыватны дом. Гаспадыня трапіла ў рэанімацыю з апёкамі траціны цела, яе маладая дачка загінула.

З выгляду — новы дом на пару соцень квадратаў, у якім жылі дзве сям'і. І што магло там здарыцца? Папярэдняя версія — каратнула праводку.

Пажарных выклікалі ў 7.40, калі дом на 2-м Брэсцкім завулку ўжо гарэў. А гаспадарская дачка выйшла з сацыяльных сетках у 5.41. Калі б загарэлася на пару гадзін раней, вынік мог быць зусім іншым.

«Ліза была цудоўным чалавекам і сябрам. А мама яе на ногі паставіла трох выдатных дочак (малодшай, на жаль, ужо няма), — расказала сяброўка сям'і. — І зусім не суседка выратавала гаспадыню кватэры, як адразу напісалі. Калі пажар толькі пачаўся, жанчына паспрабавала выцягнуць цётку Марыну, але не здолела. І пабегла клікаць на дапамогу. Выцягнулі яе два мужчыны, адзін з якіх таксама крыху пацярпеў — палала ж ужо на ўсю моц. А ў гэты час суседскі падлетак выклікаў пажарных і «хуткую дапамогу». Гэта сапраўдныя героі! А пра іх нідзе ні слова не сказалі».



Лізе было 23 гады. Яна вучылася ў мінскім філіяле Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта эканомікі, статыстыкі і інфарматыкі. Завочна атрымлівала адукацыю менеджара. 1 чэрвеня толькі скончылася сесія, і яна перайшла на трэці курс. Працавала ў адной з прыватных фірм.

«Мы сябравалі яшчэ школьніцамі, але гадоў сем таму я паехала вучыцца ў Вільню, — расказала сяброўка Воля. — А калі вярнулася, мы не бачыліся. І вось месяцы два-тры таму сустрэліся на вуліцы. І пачалі кантактаваць. Яна вясёлая, добрая, заўсёды падтрымлівала іншых. Яна ўсё пра сваю вучобу расказвала. Ад яе такі аптымізм сыходзіў. Не верыцца, што яе больш няма...»

**Сяргей Макарэвіч**

## Сціcла

### Пашкадаваў і забіў

У забойстве падазраецца 81-гадовы мінчук. Яму стала шкада сваю бездапаможную хворую жонку, і ён вырашыў пазбавіць яе ад пакут. Шэсць разоў ён стукнуў жанчыну малатком па галаве. А затым знявечыў сябе тым жа малатком: паламаў пальцы на нагах. Прызначана псіхіятрычная экспертыза.

### Падлеткі спалілі пенсіянера

Хлопцы выпівалі з пенсіянерам у яго машыне на Шклоўшчыне. Слова за слова, і пасварыліся. Хлопцы забілі старэйшага сабутэльніка, а затым вывезлі ў лес і падпалілі разам з аўто. У забойстве падазраюцца два 16-гадовыя падлеткі і 19-гадовы юнак.

### Патануў за рулём

У вёсцы Вязынка Маладзечанскага раёна, паблізу помпавай станцыі, «Фольксваген Гольф» з'ехаў у водны канал. Аўтамабіль выкінула за сем метраў ад берага. Відавочцы бачылі, як кіроўца праз бакавое шкло выбраўся з машыны, але не даплыў да берага — патануў.

### Насвавалілі

Чатырохкласнікі ў Ашмянах сваволілі на падворку каля бідона, у якім варылася свінячае. І адзін з хлопчыкаў укінуў у агонь бутэльку з бензінам, што застаўся ад запраўкі бацькам бензапілы. Ад выбуху школьнік атрымаў апёкі 1—3 ступені правай нагі (9% цела).

### Яшчэ адзін чыноўнік пад прыцэлам

Заведзена крымінальная справа супраць аднаго з намеснікаў мэра Баранавіч. Ён падазраецца ў перавышэнні ўлады. Паводле следчых, чыноўнік прысвоіў тавары аднаго з гарадскіх гандлёвых аб'ектаў, не заплаціўшы.

### Сам пакалечыўся і хлопца забіў

Байкер, з польскімі нумарамі, уцякаў ад міліцыі і праехаў на чырвонае святло скрыжаванне вуліц Цімашэнкі і Прытыцкага ў Мінску. І наскочыў на 22-гадовага хлопца на пешаходным пераходзе. Хлопец адразу загінуў. У кіроўцы — пералом абедзвюх касцей левага передплечча, а ў пасажыра — пералом чэрапа. Як ачуняе гора-байкер, можа сесці на пяць гадоў у турму.

### Клубнічныя войны на Палессі суправаджаюцца перастрэлкамі

Крымінальныя разборкі зладзілі невядомыя ў Жыткавіцкім раёне. На двух легкавіках яны спрабавалі спыніць «Газель», на якой мінчукі перавозілі паўтоны клубніцаў. Калі не атрымалася, абстралялі машыну. Мінчукі выклікалі міліцыю, але супрацоўнікі ДАІ не здолелі затрымаць нападнікаў. Тыя адарваліся ад пагоні і з'ехалі. У «Газелі» пашкоджаныя колы і дзверы.

### Забіла электратокам

Няшчасны выпадак здарыўся ў вёсцы Селішча Пінскага раёна. Мужчына прыехаў памагчы маці. Калі падключаў да электрасеткі вадзяную помпу для паліву агарода, паслізнуўся і ўпаў у ваду. А ў руках трымаў разетку, якая была пад напружаннем.

**КМ**

# Кітайская божая кароўка наступае

Ужо хутка ў нашых садах і на палях можа не застацца звычайнай сямікропкавай божай кароўкі (*Coccinella septempunctata*). Яе месца займае захопнік з Азіі, які мае смяротную біялагічную зброю.



**Божая кароўка-семікропка.**

Той чужаніцай з'яўляецца від божых каровак *Harmonia axyridis*, якія завуцца яшчэ арлекінамі (Harlequin ladybird). Некалі іх рассялілі ў Еўропе і Паўночнай Амерыцы для змагання з траўніцай (тлёй) у парніках. Адна азіяцкая кароўка можа зжэрці 200 траўніц за дзень. Але чалавек неўзабаве згубіў кантроль над чужаніцамі.

Арлекін падобны да нашай божай кароўкі, але мае зменлівую афарбоўку: можа быць чырвоным, аранжавым ці нават чорным. Колькасць кропак на крылах таксама можа быць рознай, у адрозненне ад нашай семікропкі, якая заўсёды чырвоная з трыма кропакамі на кожным крыле і адной на патыліцы.

Арлекіны ўсё часцей трапляюцца на вочы і ў Беларусі. Увосень яны масава абсядаюць сцены будынкаў. Чаму азіяцкім божым кароўкам так шчасціць у заваёве свету? У гемалімфе арлекінаў маецца хімічнае злучэнне гарманін. Яно выклікае моцную антыбактэрыяльную актыўнасць, азіяцкая божая кароўка лепей дае сабе рады ў барацьбе з інфекцыямі.



**Арлекіны могуць быць рознымі.**

Навукоўцы лічаць, што кароўкі-сямікропкі згінуць ужо ў гэтым стагоддзі.

**Руслан Равяка**



**Фотафакт**

## Дзяўчына без рукі стала «Міс Аёва» ў Амерыцы

Ніколь Келі нарадзілася без правай канечнасці, але жартуе, што руку адкусіла акула. 23-гадовая Ніколь скончыла Універсітэт Небраскі па спецыяльнасці «тэатр і кіно», яна марыць быць рэжысёрам на Брадвеі.

Дзяўчына — бландынка з блакітнымі вачыма. Нішто не палохае «Міс Аёва 2013». Ніколь займалася дайвінгам, танцамі, бейсболам.

Ніколь Келі збіраецца ўдзельнічаць у конкурсе «Міс Амерыка», што пройдзе ў верасні, каб у тым ліку прыцягнуць увагу да людзей з аналагічнымі праблемамі.

# Канфлікт вакол фотаў у кнізе «Краіна Беларусь» вычарпаны

Пра гэта паведаміў «Нашай Ніве» **Уладзімір Арлоў**.

Аўтары кнігі «Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя» Уладзімір Арлоў і Зміцер Герасімовіч прынеслі прабачэнні аўтарам альбома «Спадчына Беларусі» Аляксандру Аляксееву і Алегу Лукашэвічу ў сувязі з выкарыстаннем 22 фотаздымкаў з альбома «Спадчына Беларусі» без пазначэння аўтарства.

Бакі пагадзіліся з тым, што ў працэсе падбору ілюстрацыяў гэта было зроблена Змітром Герасімовічам несвядома.

У кожным новым выданні кнігі «Вялікае Княства Літоўскае» здымкі, узятыя з альбома «Спадчына Беларусі», будуць абавязкова падпісаныя, і іхнім аўтарам будзе выказвацца падзяка.




**Зміцер Герасімовіч (злева) і Уладзімір Арлоў на прэзентацыі кнігі.**

Кніга «Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя» — цудоўнае выданне ў добрай паліграфіі, якое апавядае пра гісторыю нашай краіны.

**Мікола Бугай**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Прах эканомікі, альбо Іржавае «срэбра»

Нядаўна пазнаёміўся з адным маладым чалавекам.

— Будучы фізік, — прадставіўся ён, працягнуўшы руку.

— Былы лірык...

Мы рассмяяліся. І тут я згадаў дыскусію, што разгарнулася падчас хрушчоўскай адлігі пасля нашумелага верша Барыса Слуцкага: «Что-то физики в почете. Что-то лирики в загоне...» Сёння здаецца дзіўным, што не надта які верш узбударажыў усю краіну, да хрыпаты вымусіў спрачацца, па сутнасці, ні аб чым. Але тады... Тады людзі так знудзіліся па вольных спрэчках, што нават сціплая магчымасць набыла неверагодны маштаб...

«...Ну, я так не дзяліў бы», — сказаў будучы фізік, праслухаўшы мой успамін. І прызнаўся, што ў захапленні ад Грабеншчыкова і любіць Акуджаву. Праўда, у выкананні таго ж БГ...

Я спытаў, што ён думае пра атамную станцыю, фізік усё ж. І тут высветлілася, што менавіта на атамнай станцыі ён марыць працаваць.

«Не страшна?» — запытаў я. — «А што страшнага?»

Слова за слова заспрачаліся. Я выклаў усе вядомыя аргументы «супраць», ён — такія ж вядомыя «за».

«Уяві сабе, — сказаў я, — што калі-небудзь беларуская эканоміка ўжо не будзе такой цяжкой, непаваротлівай, метала- і энергаёмістай. Куды тады падзець усе тыя атамныя мегаваты?» — «Прадаваць будзем. Ведаеце, як гэта выгадна — прадаваць энергію?! Хаця...»

Раптам на ягоным твары адбіўся цень задуменнасці...

«Разумееце, — павольна вымавіў ён, — за мае дзевятнаццаць гадоў анічога, акрамя лядовых палацаў і бібліятэкі, у краіне не пабудавана. АЭС — першая сапраўдная будоўля... А ўвогуле мяне палітыка не цікавіць. Тэлевізар не гляджу...»

Шкада, падумаў я. Калі б будучы фізік не толькі слухаў БГ, але і глядзеў БТ, магчыма, успомніў бы, як некалькі гадоў таму Лукашэнка сцвярджаў, што ў краіне пабудавана і мадэрназавана ажно 500 прадпрыемстваў. «Якіх?» — са здзіўленнем спытаўся будучы фізік. І мы разам пачалі згадваць, якіх. Але нічога новага, акрамя Шклоўскай фабрыкі газетнай паперы, не згадалі...

...Калі пасля вайны будаваліся гіганты, пра тое ведаў і тым натхняўся народ. Ды і як было не натхняцца пасярод крушняў, калі такое будучае наперадзе: праца, жыллё, Мір, Труд, Май, Ленін, партыя, камсамол!..

## Сёння «Белавежскай» нікога не купіш. Сёння краіну падавай!

Пакаленні леглі пад гігантаў.

Калі схамянуліся, было позна: гіганты самі леглі...

Вось Клімчанка Яўген Іванавіч, адзін з апошніх, мо, з тых пакаленняў. Вясковы хлопец аднекуль, здаецца, з-пад Оршы, у 70—80-х — вядомая на ўвесь СССР асоба, абвешаная ўсімі магчымымі рэгаліямі — і Герой, і член, і дэпутат, і заслужаны дзеяч... Насамрэч — выдатны слесар-інструментальшчык з МТЗ.

Аднойчы я заспеў яго за раскрытым чамаданам, дзе ўжо месціліся штофы з надзвычай папулярнай па тым часе «Белавежскай» і шэраг палак сухой каўбасы... «Вось, Героем працую, еду мяняць на камплектуючыя...», — з сумнай усмешкай паведаміў Клімчанка. Наколькі памятаю, некуды на Далёкі Усход...

Сёння і «Белавежскай», і сухой каўбасой нікога не купіш. Сёння краіну падавай! Але «дзяржплан» дасюль намагаецца працаваць, нарошчваючы мегатоны жалеза, што ўжо не змяшчаецца нават на складах, і цэдзячы праз зубы няздобрае слова «сальда»....

Чаму ж пра будоўлі лукашэнкаўскага камунізму ніхто не ведае? Чаму не натхняецца? А толькі і чуецца дасюль адусюль: фамільнае срэбра, фамільнае срэбра.

Ну, і што рабіць з гэтым «срэбрам» краіне, у якой амаль палова насельніцтва — пенсіянеры?! Прадаць?

Тут «былы лірык», вядома, дрэнны дарадчык. «Быломy лірыку» крыўдна за людзей, якія таму «срэбру» зрабілі «фамілію». Але ўжо нават не сімптомы, а дыягназ сістэмнай хваробы відавочны: «срэбра» амаль саржавела і пагражае канчаткова ператварыцца ў прах. Дык, можа, усё ж змяніць «фамілію»? То бок правесці нарэшце структурныя рэформы, да чаго вось ўжо амаль дваццаць гадоў заклікаюць адмыслоўцы? Другі раз «запускаць заводы» наўрад ці атрымаецца...

Але прэзідэнт, чый подпіс, так бы мовіць, «наша ўсё», змяняць СССРаўскую «фамілію» на беларускую і, адпаведна, на рынкавую не хоча.

Не хоча рызыкаваць уладай дзеля краіны. Мо і краінай не хоча рызыкаваць, але адчувае, што давядзецца. Унь як напалоханы ўсходнім «монстрам»!

І ўсё ж на дзве парады «былы лірык» гатовы адважыцца: замест таго, каб пужаць раз'юшанымі «монстрамі» з абодвух бакоў, вызваліць палітзэкаў і адмовіцца ад канчатковага подпісу. А то «нам не належыць», «нам не належыць»... А «нам» сядзяць, апусціўшы вочы, слова не вымавяць. Разумеюць: у каго подпіс, таму і належыць...

«Хочаш паслухаць сапраўднага Акуджаву?» — «Хачу», — ажывіўся будучы фізік.

Спачатку ўзнік партрэт, а потым выплыў з камп'ютарнай бездані ціхі, іранічна-сумны голас: «...кричат дуракам: „Дураки, дураки!" А это им очень обидно...»

Зрэшты, усяго толькі старая, прызабытая песня...

*kamerton_41@mail.ru*

# Вежа Навагрудскага замка можа абрынуцца ў любы момант

**Драма разгортваецца** ў нас на вачах: ці паспеюць беларусы ўратаваць гістарычную святыню?

Інжынер Зміцер Салаўёў устрывожаны тым, што нават пасля ўмацавання падмурка вежы яе працягвае разрываць папалам. Сваімі назіраннямі ён падзяліўся з «НН».

«Калі я еду па Гродзенскай вобласці, я стараюся заязджаць у Навагрудак да замка: каб знаёмым паказаць і самому паглядзець. На жаль, вяршыня вежы не пазбегла атмасфернай эрозіі і нават візуальна зменшылася цягам апошніх гадоў. Раней над парэшткамі быў часовы навес, але ён не меў арганізаванага вадасцёку, і вада проста лілася з навеса пад сцены вежы, што не было спрыяльна для падмуркаў.

А года паўтара таму я звярнуў увагу на вельмі нядобрыя расколіны на Касцельнай вежы.

Апошні раз быў у Навагрудку тыдзень таму. Яшчэ раз агледзеў рэшткі замка, і сітуацыя цяпер нашмат горшая за тую, што была ўзімку, калі праводзіліся працы па ўмацаванні падмурка.

Касцельная вежа Навагрудскага замка стаіць у небяспечным месцы. Калі замак будавалі, схіл, імаверна, падрэзалі, каб зрабіць яго больш стромкім. Гэта стварыла прызму абрушэння грунтоў пад вежай — простымі словамі, грунт з боку падрэзанага схіла стаў схільны да спаўзання.

Я заўважыў некалькі «нашлёпак» з раствору на некаторых расколінах — «маякоў», па якіх можна сачыць за дэфармацыямі. Асаблівую ўвагу звярнуў на «маяк» на расколіне вежы Касцельнай з паўночна-ўсходняга боку. Яшчэ ў снежні 2012 ён быў цэлы. А цяпер на ім з'явілася шчыліна тры міліметры. Гэта сведчыць аб тым, што вежа «спаўзае» па паўднёва-ўсходнім схіле. Тры міліметры за паўгода для дадзенай канструкцыі, узарванай 300 гадоў таму, — катастрафічна вялікая дынаміка. Калі б раней кожныя паўгода дадавалася 3 мм, вежа б даўно абрынулася.

Расколіны павялічваюцца, з камення-бутавай кладкі папросту выкачваюцца камяні».




**На Касцельную вежу надзенуць металічны гарсэт**

**Навагрудскі замак**
стаіць на адным з самых высокіх узгоркаў краіны — 323 метры над узроўнем мора. Калі стаіш на гэтай гары, перад вачыма рассцілаюцца прасторы. Мураваны замак тут паўстаў у XIV—XV стст. З Навагрудкам і замкам звязаныя пачаткі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага — магутнай беларуска-літоўскай дзяржавы, у якой наш народ перажыў свой Залаты Век.

Захаваліся дзве вежы: Касцельная (на фота злева) і Шчытоўка.

ЗМІЦЕР САЛАЎЁЎ



**Зміцер Салаўёў**
спецыяліст па будаўнічых канструкцыях. Скончыў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт у 1996. Выконваў абследаванні будынкаў для дзясяткаў беларускіх будаўнічых кампаніяў. Піша доктарскую дысертацыю ў Варшаўскім політэхнічным універсітэце. Як грамадзянін Зміцер займаецца праваабарончай дзейнасцю разам з вясноўцамі.

## «Вежа аварыйная ўжо сто гадоў»

Сяргей Друшчыц, намеснік дырэктара ААТ «Белрэстаўрацыя» і па сумяшчальніцтве навуковы кіраўнік праекта па кансервацыі Навагрудскага замка, упэўнены, што падстаў для трывогі няма.

«Мы ажыццяўляем маніторынг стану вежы: назіраем за «маякамі», праводзім фотафіксацыю. Разрыў «маякоў», шчыліны на тры міліметры — гэта нармальна, гэтыя «маякі» і павінны былі парвацца. Вы ў панэльным доме пастаўце «маякі» і потым паглядзіце на вынік.

Мы не назіраем ніякіх зменаў, якія могуць выклікаць трывогу. Касцельная вежа знаходзіцца ў аварыйным стане з 1907 года. Цяпер стан вежы не проста аварыйны — ён небяспечны. Першы раз праект па кансервацыі пачалі распрацоўваць 15 гадоў таму. Паралельна з распрацоўкай праекта праводзілі работы на месцы — накрылі вежу дахам. Аднак фінансаванне скончылася, і тады мы не паспелі нават завяршыць праектную частку.

У мінулым годзе быў распрацаваны новы праект рэканструкцыі. Была праведзеная геалагічная разведка. Гэтымі днямі мусіць скончыцца ўстаноўка сваяў — прабураць апошнія свідравіны. Інжынеры УП «Гроднаграмадзянпраект» распрацавалі спецыяльную часовую металічную канструкцыю, якую «надзенуць» на вежу і заякараць на сваі. Яна будзе ўтрымліваць вежу падчас работ па кансервацыі», — кажа Друшчыц.

Паводле Друшчыца, праект распрацаваны для ўсяго комплексу цалкам і ўжо прайшоў экспертызу. У ім ужо запланаваная арганізацыя невялікай музейнай экспазіцыі ў вежы Шчытоўка. Галоўнае, каб з руінамі Навагрудскага замка за гэты час не здарылася нічога фатальнага. Але Друшчыц упэўнены ў пазітыўным канцы: «Бог нам дапамог, і за 15 гадоў з моманту апошніх работ з вежай нічога не здарылася».

## Сваі схапіліся і трымаюць

Не падзяляе трывог Салаўёва і Рышард Кацынель, галоўны інжынер УП «Гроднаграмадзянпраект», якое распрацоўвала праект умацавання замкавай гары і вежы.

«Мы праводзілі сваё геалагічнае даследаванне. Бо спачатку для «Белрэстаўрацыі» яго зрабіла нейкая прыватная фірма, але ў няправільным месцы. Па яго выніках мы распрацавалі праект умацавання схіла бураін'екцыйнымі сваямі — па-іншаму гэта зрабіць было немагчыма. А ўжо металічная канструкцыя для ўтрымання вежы будзе трымацца на бураін'екцыйных сваях.

Бетанавалі зімой, але раствор закачвалі пад зямлю, таму гэта не патрабавала адмысловых прысадак. «Маякі» я ставіў уласнаручна, каб паглядзець, што адбываецца з вежай. І расколіна пайшла яшчэ падчас працы, а цяпер бетон ужо схапіўся, і сваі добра трымаюць грунт», — кажа Кацынель.

## Прыклад Пізанскай вежы

«Будзем спадзявацца, што прынятыя захады будуць эфектыўнымі, — падсумоўвае Салаўёў. — Галоўнае — уважліва адсочваць рух вежы ў прасторы. Патрэбны пастаянны маніторынг стану вежы, маніторынг прасадак па гарызанталі, адхілення вежы ад вертыкалі. Гэта можна рабіць з дапамогай дакладных GPS-датчыкаў ці электронных тахеометраў.

Сітуацыя патрабуе неадкладных крокаў.

Калі праведзеныя раней работы не прынясуць выніка, трэба прымаць іншыя меры.

Калі ўлічыць, што дадатковыя дэфармацыі дадаліся за апошнія паўгода, падчас выканання працаў па ўмацаванні, ёсць верагоднасць, што акрамя закладзенай у праекце цэментацыі грунтоў з дапамогай бураін'екцыйных свай спатрэбіцца дадатковае ўмацаванне — можа, у дадзеным выпадку былі б эфектыўнымі шпунтовыя сценкі з бураін'екцыйных свай з металічнай арматурай ці грунтовыя анкеры.

Вежу можна выратаваць. Сёння існуюць проста фантастычныя тэхналогіі. Добры прыклад — выратаванне знакамітай Пізанскай вежы ад падзення. Хочацца, каб і беларусы захавалі для ўнукаў вежу Наваградскага замка такой, якой мы бачым яе цяпер, а не крушню пад гарой».

**Кірыла Хілько**






**Паводле назіранняў Салаўёва, за 6 месяцаў шчыліна на сцяне Касцельнай вежы пашырылася на 3 міліметры.**

ЗМІЦЕР САЛАЎЁЎ




# Крыж на старой крыўдзе

**Ці варта ў Беларусі ставіць помнікі партызанам Арміі Краёвай?**

Усё пачалося з крыжа. Крыж паставілі палякі, беларускія палякі. Паставілі не на магіле. А на месцы апошняга бою апошняга камандзіра Арміі Краёвай Анатоля «Олеха» Радзівоніка — у вёсцы Рачкаўшчына Шчучынскага раёна пад Гроднам. Крыж абудзіў старую спрэчку: ці можна / ці варта ўшаноўваць памяць АКоўцаў? А яна выходзіць далей за проста пытанне пра памяць: гэта і ўвогуле пра беларуска-польскія адносіны.

Асаблівае адценне навіне пра крыж надае постаць «Олеха». Ён быў праваслаўны, беларус, але захоўваў вернасць Польскай дзяржаве ў межах да 1939 года. Настаўнік быў, разумны, і пратрымаўся найдаўжэй сярод палявых камандзіраў — да 1949 года.

Уразіла і тое, каго за крыж будуць судзіць — арганізатараў установкі 19 чэрвеня чакае працэс. Пад суд пойдзе 82-гадовая жанчына. Для яе гэта не першы суд і не найгоршы.

### Вераніка, «Ружачка»

Вераніка «Ружачка» Себасцяновіч была сувязной Арміі Краёвай. Яе, 20-гадовую, арыштавалі ў 1951-м і асудзілі на 25 гадоў. Тады гэта была найвышэйшая мера пакарання. Яна прабыла ў лагеры чатыры гады і выйшла на свабоду пасля смерці Сталіна.

Чаму вакол крыжа разгарэлася спрэчка? Бо ніхто АКоўцаў у Беларусі не рэабілітаваў. Бо старыя людзі яшчэ памятаюць крыўды, якія палякі рабілі беларусам да вайны і ў часе вайны. Бо беларускія нацыяналісты польскіх імперскіх амбіцый пабойваліся, як і расійскіх.

І — у той жа час — мінуламу не вярнуцца. АК вяла вайну за аднаўленне Польшчы ў старых межах. Цяпер пра гэта няма гаворкі. Межы ўстанавіліся навечна, беларусам і палякам больш няма чаго дзяліць. І, калі палякі прымірыліся з немцамі і ўкраінцамі, якія пралілі столькі польскай крыві, то чаму павінна працягвацца польска-беларуская варажнеча, прытым што палякі з беларусамі ні разу за гісторыю не ваявалі?

### «Яны хацелі расчляніць Беларусь»

«Крыж? А хіба ёсць магіла? — дзівіцца Яўген Сямашка, аўтар кнігі «Армія Краёва на Беларусі». — Што тычыцца АК: ніводзін з іх не ставіў пад сумнеў, што мяжа Польшчы мусіць ісці пад Заслаўем, як у 1939-м. Яны хацелі расчляніць Беларусь — ці варта ставіць ім тут помнікі?»

Кніга пра Армію Краёву выйшла ў 1994-м вялізным накладам — 24 тысячы асобнікаў — і зрабіла ў грамадстве рэзананс. Як прызнаецца сам Сямашка, кнігу ён пісаў «з пазіцый савецкага чалавека».

«Вось эпізод, я не ўключыў нават у кнігу: як акоўцы на Котры выразалі сям'ю. Жылі ў лесе, былі лаяльныя да савецкай улады. 1945-ы ці 1947-ы год... У Шчучыне, у гарадскім парку стаіць памятны абеліск. І там больш за 100 прозвішчаў тых, хто загінуў у 1944—53 гады. Старшыні сельсаветаў, напрыклад...»

Сярод акоўцаў хапала этнічных беларусаў, прызнае Яўген Сямашка, але самі яны сябе беларусамі ці лічылі?

«Ашмянскі раён, напрыклад — пагалоўна былі ў АК. Толькі самыя прасунутыя, ксяндзы, кшталту Гадлеўскага, разумелі, што яны беларусы... Галоўнае пытанне — ці ты за цэласнасць Беларусі, ці не. Хто быў за — той быў на баку савецкай улады», — мяркуе Сямашка.

### Лясныя браты

Любая партызанская вайна — брудная. У 1940-я ў Беларусі дзейнічалі польская, украінская, літоўская, савецкая партызанкі. Тактыкай, метадамі, стаўленнем да людзей яны мала розніліся. Бо партызану галоўнае — выжыць, а выжыць у лесе цяжка.

Армія Краёва была тыповым партызанскім рухам — з рамантыкай, крывёй, яўкамі-паролямі, сувязнымі, апорай на хутаранаў, замежным «цэнтрам», дыверсіямі і рабаўніцтвам насельніцтва, за кошт якога партызанка жыла.

Для акоўцаў, якія ўзяліся за зброю ў 1939-м, Беларусь была польскай тэрыторыяй, «крэсамі». Лясныя партызаны другой паловы 1940-х, як і большасць людзей у вёсках, лічылі, чакалі, што амерыканцы хутка разаб'юць Савецкі Саюз.

Самыя стойкія не легалізаваліся нават пасля дзвюх амністый 1945 і 1947 гадоў, працягвалі дыверсіі і рэквізіцыі. Іх групы па адной дабівала НКВД.

У той жа час на Берасцейшчыне яшчэ дзейнічала зацятае ўкраінскае падполле, а ў цэнтральных раёнах Беларусі — асобныя групы беларускіх «лясных братоў».

**У Шчучынскім раёне ад рук Арміі Краёвай загінула больш за сто савецкіх актывістаў »**

### Ніякага перадзелу межаў

Беларускія палякі не ставяць пытання пра перадзел межаў. «Ушанаванне АК — гэта проста пытанне памяці для палякаў, якія жывуць у Беларусі», — кажа актывіст незалежнага Саюза палякаў, журналіст Андрэй Пачобут.

«Чалавек, які нарадзіўся і памёр, мае права на пасмяротны крыж. Гэта была вайна. Невядома, хто правы, хто вінаваты...», — так прымірэнча патлумачыла «Нашай Ніве» свае дзеянні Вераніка Себасцяновіч.

«Ёсць сілы, якім выгадна распаліць гэты канфлікт, згуляць на ім. Дзяржаўныя СМІ процістаўляюць «бандытаў» з АК і «беларускіх чэкістаў» з НКВД. Хоць якімі яны былі беларускімі, тыя чэкісты? Яны былі прысланыя ў Беларусь», — нагадвае Пачобут і прызнае: погляды на паваенны супраціў дзеляць грамадства. «Нашчадкі савецкіх актывістаў, стваральнікаў калгасаў будуць мець адзін погляд на АК. Нашчадкі тых, хто змагаўся з савецкай уладай — іншы. Прычым палярызацыя адбываецца незалежна ад нацыянальнасці: і сярод савецкіх актывістаў, і ў партызанах былі і палякі, і беларусы, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў».



Радзівонік быў адным з не такіх шматлікіх праваслаўных у Арміі Краёвай. Ён ваяваў супраць саветаў да самай сваёй смерці ў 1949-м.

### Прабачаем?

Калі ў 1965 годзе польскія біскупы на чале з Каралем Вайтылам, будучым Янам Паўлам ІІ, даслалі сваім нямецкім калегам зварот «Прабачаем і прабачэння просім», польская ўлада выкарыстала гэта для кампаніі ачарнення касцёла. Маўляў, здраднікі, ворагі народа: палякам няма за што прасіць у немцаў прабачэння!

Але той ліст узрушыў нямецкае грамадства і дапамог прымірыць адвечных ворагаў: палякаў і немцаў. Таксама прымірыліся іншыя адвечныя непрыяцелі: французы і немцы.

Аналагічнае ў апошняе дзесяцігоддзе адбываецца ў польска-ўкраінскіх адносінах. Гайдамакі, этнічныя чысткі на Валыні, аперацыя «Вісла» — цяжкі груз. Доўгія стагоддзі два народы змагаліся за зямлю, за рэсурсы, за дзяржаўнасць. Цяпер усё гэта неактуальна. Каб паставіць на мінулым крыж, былі супольныя намаганні інтэлектуалаў, былі дзеянні на дзяржаўным узроўні.

Ці не варта беларускім палякам, у тым ліку ветэранам АК, адмовіцца ад такіх крыжоў, калі гэта выклікае спрэчкі? Ці не варта ўзважваць свае словы і жэсты?

З другога боку, пара і беларусам мысліць сённяшнім днём: цяпер між Польшчай і Беларуссю няма ніякага канфлікту інтарэсаў. Наадварот, дзве цэнтральнаеўрапейскія нацыі маюць падобныя інтарэсы. І да меншасцяў трэба ставіцца паблажліва.

«Украінска-польскі канфлікт вырашаецца цывілізавана. Ёсць з абодвух бакоў імкненне, каб пра яго гаварылі гісторыкі, а не палітыкі», — прыводзіць параўнанне і Пачобут.

«Цяжкая мінуўшчына не павінна вісець над намі нейкім адвечным праклёнам, каб з-за яе былі немагчымыя добрыя адносіны паміж двума народамі і ў будучыні», — напісаў намеснік рэдактара часопіса Arche Алесь Пашкевіч у сваім водгуку на палеміку вакол крыжа ў Рачкаўшчыне.



82-гадовую Вераніку Себасцяновіч са Скідаля (Гродзенская вобласць) будуць судзіць за тое, што яна паставіла крыж па камандзіру АК Радзівоніку.

# Анатоль Сідарэвіч: Паміж двума арламі



Палякі ў нас — меншасць. Меншасць павінна быць лаяльнаю ў дачыненні да тае дзяржавы, у якой жыве. Акцыя, пра якую мы вядзем гаворку, была правакацыяй.

1. АК змагалася не так супраць савецкай улады, як за Польшчу ў межах 1921 года, г. зн. зноў жадала падзяліць наш народ і нашу краіну. Была б тут улада беларуская, АК гэтак жа змагалася б з ёю.

2. АК забівала не толькі беларускіх актывістаў. Не толькі праваслаўных. Беларусы-каталікі для іх былі не меншыя ворагі.

3. Тое, што вырабляла АК у Падляшшы, гэта былі злачынствы супраць чалавечнасці.

4. Так, сучасная ўлада ў Беларусі СУБ'ЕКТЫЎНА ацэньвае дзеянні АК з прасавецкіх пазіцый, аднак АБ'ЕКТЫЎНА атрымліваецца, што яна дзейнічае з пазіцый беларускіх.

5. Калі б у нас была сапраўды беларуская ўлада, яна павінна была б прад'явіць Польшчы рахунак за канцлагеры 1919—1921 гг., за злачынствы АК.

Польшча цягам двух дзесяцігоддзяў вяла ў нашай краіне рабаўнічую палітыку... Яшчэ страшнейшае злачынства Польшчы перад Беларуссю — тое, што сваёй палітыкай польскія ўлады пашыралі ў нашай краіне пракамуністычныя настроі, камунізавалі народ.

Нагадваць Польшчы і палякам пра іх віну перад Беларуссю трэба. І самім ні на міг не забываць. Як і пра віну Расіі.

**Анатоль Сідарэвіч**

гісторык, даследчык гісторыі нацыянальнага руху ХХ стагоддзя.

# Алесь Пашкевіч: Мінуўшчына не павінна быць праклёнам



Я не аспрэчваю таго, што «акоўцы» не былі святымі і на іх сумленні ёсць дзеянні, якія можна кваліфікаваць як злачынныя. Але непасрэдны ўдзел у злачынных дзеяннях канкрэтных байцоў і камандзіраў Арміі Краёвай трэба даводзіць канкрэтнымі фактамі, канкрэтнымі сведчаннямі. Як, напрыклад, гэта зроблена ў дачыненні да вядомага падляшскага «беларусажэрцы» Рамуальда Райса («Бурага»). Адносна Анатоля Радзівоніка («Олеха») мне падобных фактаў не траплялася.

Пан Сідарэвіч так і не сфармуляваў дакладна, што, на ягоную думку, мы мусім атрымаць ад палякаў за крыўды, нанесеныя беларусам у мінулым.

Прызнаў, праўда (добра і гэта!), што патрабаваць нейкія канкрэтныя рэпарацыі з Польшчы позна. Трэба затое «нагадваць Польшчы і палякам пра іх віну перад Беларуссю трэба, бадай, штодня. І самім ні на міг не забываць». Але што гэта дасць сучасным беларусам і сучасным палякам (бо большасць з непасрэдных крыўдзіцеляў і пакрыўджаных ужо ў магіле)?

Цяжкая мінуўшчына не павінна вісець над намі нейкім адвечным праклёнам, каб з-за яе былі немагчымыя добрыя адносіны паміж двума народамі і ў будучыні.

Катэгарычнае настойванне пана Сідарэвіча на жыццёвай неабходнасці ў выстаўленні іншым народам рахункаў не магло не прыгадаць мне кардынальна іншага падыходу. Маю на ўвазе кніжку «Беларусы, літоўцы, украінцы: нашыя ворагі ці сябры?». Яе аўтар — польскі публіцыст, пісьменнік і грамадскі дзеяч Багдан Скарадзінскі (псеўданім Казімеж Падляскі).

Гэтая праца была напісана ў першай палове 1980-х гг. і выйшла ў свет як падпольнае выданне «Салідарнасці». Б. Скарадзінскі загадзя паставіў пытанне: якой у выпадку змены сітуацыі мусіць быць польская ўсходняя палітыка, то бок узаемаадносіны з гістарычна і культурна звязанымі з палякамі народамі — беларусамі, літоўцамі і ўкраінцамі. Крытычна разгледзеўшы ранейшы гістарычны досвед гэтых узаемаадносін (не адмаўляючы ў іх негатыўным складванні віны ў тым ліку і польскага боку), аўтар заўважыў, што яны трапілі ў пэўнае заганнае кола. Спачатку палякі, узмоцніўшыся, наносяць удар па інтарэсах іншых народаў, пры змене расстаноўкі сілаў тыя народы палякам помсцяць, а пасля палякі, зноў узмоцніўшыся, помсцяць у сваю чаргу. Б. Скарадзінскі, усведамляючы, што гэты шлях вядзе ў нікуды, бачыў выхад з заганнага кола ў тым, што пры новай змене сітуацыі, калі ўсе чатыры народы цалкам ці часткова вызваляцца ад дыктату Масквы, наймацнейшы з іх (то бок Польшча) мусіць, насуперак ранейшай логіцы, не помсціць іншым за старыя крыўды, а прапанаваць ім руку сяброўства і дапамогі. Натуральна, што пры гэтым палякі мусілі адназначна прызнаць непарушнасць усходніх межаў сваёй дзяржавы, а канкрэтная палітыка адносна кожнага з народаў павінна была залежаць ад іх уласнага стану і патрэбаў. З літоўцамі палякі мусілі праяўляць салідарнасць у іх памкненні да волі, украінцам мелі прабачыць іхныя грахі, адначасова просячы пра прабачэнне сваіх уласных, беларусам жа павінны былі аказаць дапамогу ў правядзенні арганічнай працы, скіраванай на канчатковае дафармаванне нацыі.

Ідэі, выказаныя ў брашуры, знайшлі ўвасабленне ў той палітыцы, якую польская дзяржава вядзе адносна сваіх усходніх суседзяў апошнія больш за два дзясяткі гадоў.

Польшча ўжо шмат гадоў паслядоўна аказвае беларусам дэклараваную некалі Б. Скарадзінскім дапамогу. Канкрэтныя прыклады гэтага — фінансаванне польскім урадам дзейнасці цалкам беларускамоўнага тэлеканала «Белсат», існаванне безлічы разнастайных адукацыйных і навуковых стыпендый, стажыровак ды праграм як для беларускай моладзі, так і для навукоўцаў.

Чаму гэта панам Сідарэвічам не залічваецца як сплата таго доўгу, пра які ён не стамляецца пастаянна нагадваць? Таму, што гэта не дае імгненнага эфекту? Але ж палякі за нас нашую арганічную працу не зробяць. То лепей скіраваць энергію на ўдасканаленне ўласнай працы, а не на пошук рэальных і міфічных ворагаў.

**Алесь Пашкевіч**

гісторык, намеснік рэдактара часопіса Arche. Даследуе гісторыю нацыянальнага руху Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы.



# Фота года: асуджаныя на пажыццёвае зняволенне

## Беларускія фатографы падвялі **вынікі года**.

Трэці год праходзіць конкурс «Прэс-фота». Сёлета яго пераможцам стаў Вячаслаў Цуранаў. Ён 11 год супрацоўнічае з газетай Міністэрства ўнутраных спраў «На страже». Лаўрэат міжнароднай прэміі «Залатая камера».

Унікальнасць здымкаў Цуранава ў тым, што ён трапіў туды, куды звычайна не дапускаюць журналістаў – у жодзінскую турму для зняволеных пажыццёва, здымаў на самым сацыяльным дне.

Людзі ў робе, футраных шапках, аранжавых нагавіцах сядзяць на крэсле ў турэмным дворыку. Гэта адзінае, апроч камеры і канваіраў, што бачаць гэтыя людзі.

У Беларусі больш за сотню чалавек, асуджаных на пажыццёвае.

Цуранаў адзначае, што сярод такіх асуджаных вельмі многа маладых людзей.

Фатограф «Нашай Нівы» Сяргей Гудзілін атрымаў перамогу ў трох намінацыях.

Журы конкурсу адзначыла першым месцам у намінацыі «Навіны» эксперыментальны здымак Сяргея Гудзіліна. На ім — журналіст «Комсомольскай правды в Белоруссии» Ірына Козлік і фрылансар Юлія Дарашкевіч чакаюць суда ў машыне міліцыі. Таксама першае месца ў Гудзіліна ў намінацыях «Рэпартажны партрэт» — за серыю «Чорны спіс мастацтваў» і «Мабілаграфія» — за фота з беларускага «Поля цудаў», што ля рынку «Ждановічы».

**Лявон Максюта**

# Малодшы брат Багушэвіча

З Францішкавых братоў ён быў **самы малодшы**.

Нарадзіўся ў Кушлянах у 1846. Высокі, гонкі, светлавалосы, з высакароднымі рысамі твару, увесь адкрыты, натхнёны, узнёслы. Рос і гадаваўся на тых самых прыкладах і ўзорах, што і яго старэйшыя браты. Спачатку вучыўся ў вандроўных настаўнікаў, затым у Віленскай гімназіі.

На час паўстання 1863 яму было толькі сямнаццаць. Ён як мог дапамагаў дзецюкам Каліноўскага, насіў ім у лес харчы, добра ведаў «Мужыцкую праўду» — яе ў Кушляны прывозіў з Вільні гімназіст Антон Ясевіч, а вандроўны настаўнік Клімашэўскі чытаў сваім выхаванцам, сеяў зерне нянавісці да царскага ўрада, і гэтая навука неўзабаве прыдалася Апалінару.

5 лістапада 1863 царскія жандары зрабілі другі наскок на Кушляны (першы быў 25 кастрычніка) — прыехалі па Апалінара і бацьку. Да Ашмянскай следчай камісіі дайшлі звесткі, што паўстанцам дапамагалі Апалінар і бацька Казімір Багушэвічы. Вобшук нічога не даў, не знайшлі нічога такога, за што можна арыштаваць Апалінара. І ўсё ж юнака арыштавалі. Нявопытны, ён часам блытаўся ў сваіх паказаннях, яго лавілі на словах. А ён цвёрда трымаўся агульнай дамовы: нікога не ведаю, нічога не бачыў.

10 мая 1864 Мураўёў сваім заключэннем аддаў Апалінара, яго сястру і бацьку вайсковаму суду па палявым крымінальным улажэнні. Больш года пратрымалі хлопца ў астрозе, а затым перадалі «на благонадежное поручительство». У Кушляны ён вярнуўся памужнелы, загартаваны і ўзяўся за гаспадарку. Ён любіў гаспадарыць, тым больш у Кушлянах на тую пару нікога з братоў дома не было. Затым мы бачым Апалінара ў слынных Яшунах, у маёнтку Балінскіх. Пра гэта мы даведваемся з заявы Францішка Багушэвіча ад 4 лютага 1886 у Віленскі акруговы суд. Паводле слоў кушлянцаў, Апалінар там быў за камісара — даверанай асобай Балінскіх, вёў маёнткавую гаспадарку.

Францішка Багушэвіча таксама прываблівала Яшунская сядзіба. І найперш як асяродак культуры. Нейкі час тут жыў слынны матэматык, філосаф, рэктар Віленскага ўніверсітэта Ян Снядэцкі, а таксама вядомы гісторык Міхаіл Балінскі.

З Яшунамі ў маладыя гады звязаў свой лёс і польскі паэт Юльюш Славацкі. Тут часта бывалі Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і шмат іншых, дарагіх Францішку людзей. У Яшунах была багатая бібліятэка. Францішак ганарыўся, што менавіта яго брату даверылі кіраваць такім культурным асяродкам.

Яшуны знаходзіліся недалёка ад Вільні — усяго дваццаць сем з паловай вёрстаў, пры Лідскім тракце. І Францішак, пэўна ж, неаднойчы сюды завітваў. А ў 1887 нават даслаў у часопіс Kraj нататку пра яшунскі пажар 21 ліпеня, калі ў суш згарэла дваццаць валокаў бору. Мабыць, гэты пажар стаўся для Апалінара як даверанай асобы вялікім перажываннем. Яно, пэўна, перадалося і Францішку.

У 1898 Багушэвічы дзяліліся. Апалінар адмовіўся ад зямлі. Францішак меўся за гэта сплаціць брату 2667 рублёў. Разышліся яны палюбоўна. Падчас раздзелу Кушлянаў браты часта сустракаліся. Захавалася Апалінарава даручэнне, у якім ён вельмі ласкава называе Францішка «любым братам».

Праз нейкі час Апалінар жыве за Вільняй — у маёнтку Антаноша. Паводле адных звестак, ён нібыта купіў гэты маёнтак, паводле іншых — даглядаў на тых жа ўмовах, што і Яшуны. Разам з тым, яго імя часта фігуруе ў Віленскіх адрасных кнігах. То мы бачым, што ён жыве на Навагрудскай вуліцы ў доме Мантвілы (1898), то на Каўказскай, 16 (1908—1909), то на вуліцы Вялікай у гасцініцы «Францыя» (1910—1912), то на Зарэчнай, 3 (1913—1915). Але памёр, як сведчыць выпіс з актаў грамадзянскага стану віленскага Бернардынскага касцёла (запіс №191), у маёнтку Антаноша. Гэта прымушае думаць, што там было яго сталае месца жыхарства. Пахавалі Апалінара ў Вільні.

На віленскім Бернардынскім могільніку (вуліца Полацкая) на магіле ацалеў гранітавы помнік. Ён у добрым стане, з ланцуговай агароджай. З надпісу на помніку даведваемся, што памёр Апалінар 19 верасня 1920 на 75-м годзе. Тут жа пахавана і яго жонка Мальвіна, якая адышла ў 79 гадоў 18 мая 1930. Магілку даглядаюць.


**Апалінар Казіміравіч Багушэвіч, родны брат паэта з сям'ёй — з дочкамі Алінай, Канстанцыяй і жонкай Мальвінай.**

У архіве «Нашай Нівы» за 1906—1915 ляжыць картка. У ёй згадваецца маёнтак Антаноша і Апалінарава прозвішча. Пэўна, нашаніўцы хацелі звязацца з Апалінарам, а мо і звязаліся. Ва ўсякім разе ў нашаніўцаў была якаясьці спроба наладзіць сувязь з братам Францішка.

Паводле звестак Зыгмунта Абрамовіча, Багушэвічавага стрыечнага ўнука, у Апалінара былі дзве дачкі — Аліна і Канстанцыя, а таксама сын Севярын. Севярын скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, доўга жыў у Вільні, быў віленскім суддзёй і натарыусам, затым пераехаў у Польшчу. Зыгмунт Абрамовіч даў мне адрас Апалінаравага ўнука Ежы (Юркі) Багушэвіча.

Я пісаў на гэты адрас, думаў, мо якія памяткі пра Багушэвіча ацалелі, але адказу, на жаль, не атрымаў. Тым не менш не трачу надзеі, што хоць калі звяжуся з Апалінаравымі нашчадкамі і, можа, калі не я, то хтось такі апантаны, як я, знойдзе ў сямейным архіве штокольвек каштоўнае для жыццяпісу Багушэвічаў.

**Уладзімір Содаль**

# Беларуская глыбіня. **Гуканне Хрыста**

Піша **Павел Севярынец**.

*І ўсё, чаго не папросіце*
*У малітве з вераю,*
*Атрымаеце.*
*Мацвея 21:22*


**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Што мы робім, калі нам блага?

Слушна. Молімся.

Імгненна згадваем: побач *хтосьці ёсць*. Просім Госпада, ды Маці Боскую, ды святых... Плачам, нагадваем, грукаем у неба, крычым — аж пакуль нас не пачуюць..

А што мы робім, калі раптам блага краіне?

Хіба што цяжка ўздыхнём. От, маўляў, народ...

Народ, а як жа. Каму яшчэ яна патрэбная, гэтая няшчасная, быццам *нема* разяўленая пашча, зямля — мо аднаму Таму, Хто стварыў яе, Хто даў нам волю і выбар: маўчаць або гукаць, ныць або змагацца, сварыцца ці любіць, Хто Адзіны можа перавярнуць свет з галавы на ногі і з болю імгненна выплавіць радасць?..

Насамрэч маліцца за тых, хто побач, за тое, што адбываецца, — гэта як дыхаць. Есці. Піць. Калі малітва дасягае глыбіні, сувымернай з шэптам каханай або тэлефанаваннем матулі, і Бог пачынае гаварыць з намі.

**Маліцца за тых, хто побач, — гэта як дыхаць »**

І падзеі, і справы, і цуды жыцця тады расхінаюцца перад намі як адна суцэльная асабістая размова — з Ім.

Мы молімся — Бог чуе. Мы маўчым — Бог маўчыць. Малітва — вусная заява на імя Божае, пасля якой Госпад мае права адкрыта ўмяшацца ў наша жыццё.

Зранку, як прачнешся. Перад стравай. Перад справай. У сумленні, перажыванні, цярпенні. Засынаючы. Такім *ёмістым сэрцам* дня, калі вызваляеш час з пакаяннем за сённяшнія грахі і падзякай за сённяшнія дабраславенні. Молішся за тых, каму цяпер цяжка, — і, заміраючы, ціха, малітоўна слухаеш.

Сумятня ды клопат сціскаюць і вылягчаюць малітоўныя выдыхі, і з тамленнем духу дранцвее механічнае — *адгаварыць*... Мы гадзінам і рыхтуемся да галоўных размоваў з людзьмі — а ў самых важных размовах у жыцці, з Богам, абыходзімся незадаволеным бурканнем.

Ва ўсім хрысціянскім свеце вось ужо дзве тысячы гадоў з малітваў пачынаюцца дзяржавы і нацыі. Ірландыя святога Патрыка. Англія лалардаў і пурытанаў. Шатландыя, абуджаная малітвай Джона Нокса. Францыя імшаў, якіх быў варты Парыж. Польшча, у каторай Касцёл маліўся разам з «Салідарнасцю». Філіпіны з малітоўнай рэвалюцыяй. Украіна, дзе кожнаму дню Майдана папярэднічала малітва ўсіх канфесіяў. Нават не надта веруючы Абама абвяшчае штогадовы нацыянальны Дзень малітвы — бо большасць з трохсот мільёнаў амерыканцаў свядомыя хрысціяне.

Менавіта з адначасовага малітоўнага хору ў цэрквах і касцёлах нараджаюцца мільённыя спевы на маніфестацыях. Усё гістарычна важнае вырашаецца паміж Богам і вернікамі ў супольнай малітве. Воля Божая і людскія імкненні пачынаюць зліваццa, гучаць на ўвесь голас суладнай магутнай сімфоніяй — і прачынаецца ўвесь народ, абуджаецца любоў і з'яўляецца вера. Дзе яшчэ, як не ў малітвах, яднаецца, гуртуецца і гартуецца нацыя!

Мала хто згадвае, што духовай асновай ВКЛ была менавіта штодзённая малітва. Двойчы-тройчы на дзень і вяскоўцы, і гараджане ішлі ў царкву, касцёл, збор — і мелі спор ў працы штодзённай, шэрай, і была свабоднай, была шчаслівай і наша краіна, і наш народ. У Вільні пусцеюць вуліцы — вячэрняя... Цэрквы ўсцяж моляцца аб перамозе над татарамі.... Вялікакняскія прывілеі зачытваюцца ля храмаў, бо народ — *там*.

Беларускія мегамалітвы — каталіцкае Раство і праваслаўная Пасха, супольная пратэстанцкая пяцідзясятніца, Будслаўскі фэст і свята Божага Цела.

Сённяшняя малітва за Беларусь — гэта агмяні Чырвонага касцёла, парафіі святога Язэфа, пасты і пятніцы ў некаторых евангельскіх цэрквах, набажэнствы ў беларускамоўных праваслаўных прыходах і россып асабістай размовы з Богам. Пакуль нацыя толькі варушыць вуснамі. Але і найменшы наш шэпт чуе Той, Хто стварыў і голас, і вуха, і сэрца.

Час глынуць неба. Нагбом. Акунуцца ўгару. Кожнаму, хто як умее. Хтосьці хай шэпча, хтосьці, здалёку — крычыць. Спавядацца. Прасіць. За ўсе нашы пракураныя беларускія лёгкія, залітыя беларускія горлы, вырваныя разам з мовай беларускія языкі, скрыўленыя беларускія вусны...

Паверыць і паклікаць Хрыста — значыць, адкрыць Беларусь. Усё чалавечае, усё нацыянальнае, усё Боскае тут адгукаецца і вымяраецца Хрыстом. Шукаць Яго, наследаваць, запытвацца, прасіць Яго ад усёй душы — гэта і ёсць беларускае вызваленне.

Той, хто любіць Беларусь настолькі, каб аддаць за яе жыццё, той, хто імкнецца пранікнуць у крыніцы, коды і тайны беларускасці, хто ўзіраецца ў глыбіні беларускай гісторыі і далячыні беларускай будучыні — у рэшце рэшт пачынае пазнаваць светлае аблічча Ісуса. Беларускае святлоператвараецца ў азарэнне, выхоплівае з цемры ўсю дрыжачую і захопленую душу і патрабавальна вядзе за сабой.

Паслухайце Барадуліна:

Ойча наш, што ў нябёсах,
Хай свяціцца імя Тваё
І ў зорах, і ў лёсах.
Хай прыдзе Царства тваё,
Як спатоля,
Хай твая ўсеўладарная
Збудзецца воля…

І калі мы дружна пракашляемся як мае быць, пракаўтнём страхі ды пыхі, сплюнем свае грахі, калі згадаем, што далёкія продкі і дзяды вымалілі нас для прышласці, калі будзем клікаць, хто ціхенька, хто гучна, але ўсе разам — тады Беларусь як краіну і беларусаў як народ пачуе Збаўца.

*Куплін*




**Білеты прадаюцца ў касах філармоніі і ўпаўнаважанымі па арганізацыі гледача.**
**Даведкі па тэлефонах: 284-44-33, 284-32-02 (аддзел рэалізацыі білетаў); 331-36-91;**
**331-16-17, 284-47-09 (каса з 9.00 да 21.00).**
**www.philharmonic.by**

Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі. УНП 101184926.

## ІМПРЭЗЫ

### Купалле

**22 чэрвеня — дзень летняга сонцастаяння: самы доўгі дзень і самая кароткая ноч. У гэты чароўны дзень а 12-й у Дудутках** збяруцца найлепшыя прадстаўнікі беларускай (і не толькі) музыкі. Распачне канцэрт вясёлы гурт «Вурай». Працягнуць свята «Нагуаль», «Рэха», «Босае сонца». Завершыць канцэртную праграму легенда беларускага року — «Крама». Цягам усяго дня на тэрыторыі музея будуць праходзіць майстар-класы па пляценні купальскіх вянкоў, народных танцах ды рамёствах. Будзем развучваць традыцыйныя беларускія гульні ды шукаць Папараць-кветку.

### Самаход-2013

**21—22 чэрвеня ў Мінску** адбудзецца другі фестываль мабільнасці «Самаход-2013». Фестываль адкрыецца 21 чэрвеня а 19-й канцэртам гуртоў Akute i Clover Club у клубе Re:public (Прытыцкага, 62) і працягнецца 22 чэрвеня. Агульная тэма, якая аб'ядноўвае гэтыя два дні, — чалавечая мабільнасць.

### Купальскае кола

**29 чэрвеня а 19-й у Re:Public (Прытыцкага, 62) —** 5-ы pagan-folk-metal фестываль «Купальскае кола», прысвечаны старажытнаму народнаму святу Купалле, прымеркаванаму да дня летняга сонцастаяння, калі дасягаюць найвышэйшага росквіту жыватворчыя сілы зямлі.

### Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў

**З 21 па 23 чэрвеня ў Нясвіжы** адбудзецца штогадовы творчы праект «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў».

**21 чэрвеня а 16-й у тэатральнай зале замка Радзівілаў —** канцэрт салістаў оперы «Летнім вечарам…»

**У 21.30 ва ўнутраным дворыку замка —** «Лебядзінае возера».

**22 чэрвеня а 16-й у касцёле Божага Цела —** канцэрт з твораў беларускіх кампазітараў XIX стагоддзя.

**У 21.30 ва ўнутраным дворыку замка —** «Сівая легенда».

**23 чэрвеня а 15-й у тэатральнай зале замка Радзівілаў —** «Рыта, альбо Пірацкі трохкутнік».

**А 20-й ва ўнутраным дворыку замка —** Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра.

### Пікнік.by

**29 чэрвеня на хутары Шаблі пад Валожынам а 14-й** пачнецца фестываль пад адкрытым небам Пікнік.by. Сярод выступоўцаў — Akute, «Серебряная Свадьба», «Разбітае Сэрца Пацана», Паліна Рэспубліка ды іншыя. У праграме бадмінтон, фрысбі, настольныя гульні, бодзі-арт ды іншыя забаўкі.

## КАНЦЭРТЫ

### Прыгожая млынарка

**20 чэрвеня а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы —** вакальны цыкл Франца Шуберта «Прыгожая млынарка» (Die schöne Müllerin). У праграме канцэрта — рамантычныя песні з цыкла «Прыгожая млынарка», створанага Ф. Шубертам на словы Вільгельма Мюлера ў 1823, у інтэрпрэтацыі польскіх выканаўцаў — Караля Казлоўскага (тэнар) і Іяланты Пшчулкоўскай-Паўлік (фартэпіяна). **Гл. стар. 13**.

### Джазавыя суботы

**29 чэрвеня а 19-й на плошчы Свабоды** пройдзе музычны праект «Джазавыя суботы ля Ратушы». Вас чакаюць Jaak Lutsoja group (Эстонія), дуэт Kekko Fornarelli i Roberto Cherillo (Італія) і трыа Канстанціна Гарачага (Беларусь).

## ВЫСТАВЫ

### Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага



**Да 26 жніўня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага». Многія з партрэтаў Сапегаў, Тышкевічаў, Сангушак упершыню стануць вядомыя беларускім даследнікам. Творы прадаставілі музеі Львова і Вальні.

### Basis: пачатак

**Да сярэдзіны ліпеня ў мастацкай галерэі Цэнтра народнай творчасці (Гікалы, 4, памяшканне бібліятэкі імя А.С. Пушкіна)** працуе выстава твораў Паўлы Картокай «Basis: Пачатак». У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя палотны, графіка, творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Як піша сама мастачка, асноўны накірунак яе творчасці — свет фантазій, перажыванняў і пачуццяў.

### Лялькі з куфэрка

**Па 23 чэрвеня ў «Доме-музеі I з'езда РСДРП» (пр. Незалежнасці, 31а)** працуе выстава «Лялькі з куфэрка». Наведвальнікі ўбачаць калекцыю дзіцячых цацак (больш за сто экспанатаў мадэляў аўтамабіляў), сучасныя лялькі, а таксама лялькі, выкананыя ў традыцыйнай тэхналогіі.

### Няхай будзе вам цёпла, бы ў бацькавай хаце

**Да 20 чэрвеня ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага (пл. Свабоды, 15)** працуе выстава дзіцячых малюнкаў «Няхай будзе вам цёпла, бы ў бацькавай хаце», прысвечаная Сусветнаму дню ўцекачоў.

### Стасіс Красаўскас

**Да 25 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава графічных твораў народнага мастака Літвы Стасіса Красаўскаса. Красаўскас працаваў у розных тэхніках (ксілаграфія, літаграфія, лінагравюра, афорт) і стварыў станкавыя гравюры, а таксама шматлікія ілюстрацыі да літаратурных твораў.

### Славацкія нацыянальныя інструменты

**Да 22 чэрвеня ў «Гасцёўні Ул. Галубка» (Старавіленская, 14)** працуе выстава славацкіх нацыянальных інструментаў. На ёй паказаныя разнастайныя музычныя інструменты: духавыя (ражок, пастухова труба) і струнныя (ліра, скрыпка).

### Анатоль Паўлыга

**Па 22 чэрвеня ў галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі** працуе выстава мастака Анатоля Паўлыгі. Ён ужо выстаўляў свае работы ў галерэях Віцебска, Полацка і Навапалацка. Краявіды роднага краю — галоўная тэма яго творчасці. Мастак імкнуўся адлюстраваць зменлівы настрой прыроды і перадаць гледачу сваё ўспрыманне прыгажосці Беларусі.




**21 чэрвеня а 17-й у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту адбудзецца фальклорны фэст «Сонцаварот».** Вас чакаюць майстар-класы па народных рамёствах, завіванне вяночкаў, выступленне фальклорных калектываў «Ветах», «Страла», «Рада», «Этнасуполка», школа традыцыйнага мастацтва GUDA, майстар-класы па народных танцах і шмат іншага.

## ТЭАТР

### 20 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 21 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — Вечар рамансаў
**Купалаўскі** — «Арабская ноч»

### 22 чэрвеня

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»

### 23 чэрвеня

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 24 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 25 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Оперы і балета** — «Кармен»

### 26 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

### 27 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Жызэль»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 28 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

### 29 чэрвеня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 30 чэрвеня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»

# Тэатр Уршулі Радзівіл

**28—30 чэрвеня ў Нясвіжы пройдзе арт-фэст «Тэатр Уршулі Радзівіл».**

**28 чэрвеня у тэатральнай зале ў замку Радзівілаў а 16-й —** інтэрактыўны батлеечны спектакль «Міракль аб Уршулі». **У замкавым двары ў 21.30 —** спектакль «Яблычны пірог».

**29 чэрвеня у тэатральнай зале а 16-й —**камедыя дэль артэ «Панталоне з Вероны». **У замкавым двары ў 21.30 —** харэаграфічная кампазіцыя на гістарычную тэму «Песня пра Зубра».

**30 чэрвеня ў тэатральнай зале а 16-й —** музычны спектакль «Вандраванне Радзівіла «Сіроткі» ў Італію». **У замкавым двары ў 21.30 —** спектакль «Пане Каханку». **Перад пачаткам вячэрніх спектакляў з 18.30** вас чакае «Горад Майстроў і Рамёстваў».



## КІНО

### «Кадры»

**Жанр:** камедыя
**Рэжысёр:** Шон Леві
**Акцёры:** Оўэн Уілсан, Роўз Бірн, Джон Гудман, Макс Мінгела
ЗША, 2013, 119 хв.

Білі і Нік усё жыццё займаюцца продажамі. Але новы камп'ютарны свет бурыць іх кар'еру. Яны імкнуцца даказаць, што не адсталі ад жыцця, кідаюць выклік лёсу, атрымаўшы жаданую стажыроўку ў кампаніі Google разам з камандай найлепшых студэнтаў каледжаў. Але атрымаць доступ у гэты фантастычны свет — гэта толькі палова справы. Цяпер ім прыйдзецца вытрымаць канкурэнцыю з самымі лепшымі тэхнічнымі геніямі, каб даказаць, што неабходнасць — гэта маці абнаўлення.



# Беларускія аквапаркі: дзе пакупацца пад дахам?

**Правінцыйныя гарады** маюць водныя горкі, а сталіца — не.

Будаўнікі першага сталічнага аквапарку «Купалле» не паспяваюць здаць аб'ект да 3 ліпеня, як было запланавана раней. Гэтым летам пакатацца з водных горак мінчукі зноў не здолеюць. Застанецца ехаць за мяжу — Друскенікі, Вільню ці Беласток — альбо ў беларускія драбнейшыя гарады. У краіне на сёння пяць аквапаркаў, якія сумяшчаюць у сабе водныя забавы ды разнастайныя аздараўленчыя працэдуры.

### «Аквацэнтр», Гродна

Гродна, вул. Горкага, 82

(0152) 48-74-07

Час працы — 8—22, у выходныя — 10—22.

Цана за тры гадзіны: 90 тысяч рублёў (для дзяцей — 62 тысячы рублёў).



Раней гэта быў найбуйнейшы ў рэспубліцы ФАК «Юбілейны», які пасля рэканструкцыі ў 2004 стаў аквапаркам. Цяпер ён здольны змясціць да 2 тысяч наведнікаў у дзень.

Даўжыня кожнай з чатырох дарожак у басейне складае 50 метраў. Апроч іх, ёсць басейн для дзяцей і два трампліны. Горак небагата — усяго дзве... У чырвонай наведнікі скатваюцца па спіралі, а па сіняй з'язджаюць зверху ўніз па прамой. Дарэчы, для тых, хто не ўмее плаваць, працуюць інструктары.

У аквапарку ёсць і саўны, і трэнажорная зала. Можна прыняць душ Шарко і атрымаць падводны масаж.

### Кобрынскі аквапарк

Кобрын, вул.Гастэлы, 15

(01642)2-32-88.

Час працы —10—22.

Цана за тры гадзіны: 108 тысяч рублёў (для дзяцей — 86 400 рублёў).

Аквапарк адкрыўся ў лістападзе 2009. Інфраструктура прадстаўлена плавальным басейнам з дзвюма горкамі, трыма відамі лазні (руская, фінская і турэцкая), трэнажорнай залай, некалькімі спартыўнымі заламі і медыцынскім цэнтрам.

У басейне ўсталяваныя некалькі гідрамасажораў, водныя бруі, ёсць некалькі «астраўкоў» з джакузі. Для малых ёсць плыткае месца.

Сістэма ўліку часу аўтаматызаваная — кожны наведвальнік атрымлівае пластыкавы бранзалет з чыпам-пропускам, які ён на ўваходзе прыкладвае да тэрмінала і запускае механізм уліку часу знаходжання.

### Аквапарк у санаторыі «Азёрны»

Гродзенская вобласць, аграгарадок «Азёрны»

(0152) 79-87-74

Гэта найстарэйшы аквапарк у нашай краіне. Менавіта па праекце «Азёрнага» быў пабудаваны Кобрынскі аквапарк. Таму водныя атракцыёны, дадатковыя паслугі (віды лазні, саўна, плавальны басейн) у іх амаль такія ж.

### Фізкультурна-аздараўленчы цэнтр

г.Жлобін, вул.К.Маркса, 3/1

(02334) 5-00-51

Час працы — 10—21, у выходныя — 11—21. У панядзелак і аўторак зачынены.

Цана за тры гадзіны: 68 тысяч рублёў (для дзяцей — 61 тысяча рублёў). У выходныя на 12—13% даражэй.

У адным будынку раённага цэнтра знаходзіцца безліч спартыўных аб'ектаў. Самыя прывабныя — лядовы палац і аквапарк. Жлобінцы ганарацца самай доўгай у Беларусі горкай — 76 метраў. Апроч яе, варты ўвагі 50-метровы басейн на 10 дарожак, дзіцячы басейн і аквазона з вадаспадамі, каскадамі, «горнай ракой» і джакузі.

### Водны палац

г.Пружаны, ул.Завадская, 19

(01632) 9-61-22

Час працы — 10—22.

Аквапарк у Пружанах уключае 25-метровы басейн з шасцю дарожкамі, дзіцячы басейн, водныя атракцыёны, лазню, саўну, залы для заняткаў цяжкай атлетыкай і фітнэсам і разнастайныя атракцыёны — вадаспады, «грыбок», гідрамасажоры, ванны-джакузі.

Тут ёсць горкі для дзяцей, з'язджаць з іх яны будуць у плыткі басейн (глыбіня 95 см). Для дарослых наведнікаў — дзве шрубавыя горкі.

**Настасся Храловіч**

### Аквапарк у Мінску (будуецца)

Скрыжаванне праспекта Пераможцаў і МКАД.

Тут будзе сем горак для спускаў, самая экстрэмальная з іх у вышыню складзе больш за 20 метраў. Акрамя гэтага, часткова аквапарк будзе размяшчацца на адкрытым паветры, але цёплая вада і паветра, якія выкарыстоўваюцца ў горках, дазволяць карыстацца атракцыёнамі ў любы час года. У цэнтры ракі плануецца зладзіць выспу з трапічнай зелянінай і пляжам, абсталяваным шэзлонгамі і парасонамі.

Плануецца, што ў летні час аквапарк змогуць наведваць да чатырох тысяч чалавек, у зімовыя месяцы — да трох тысяч.



**Такім бачаць архітэктары сталічны аквапарк «Купалле».**

---

Прырода

## На Гомельшчыне вырасцілі першы кедравы бор

Першы ўраджай арэшкаў збяруць **ужо сёлета**.

Высадзілі кедры ў Веткаўскім раёне 36 гадоў таму ў колькасці 500 саджанцаў, але выпрабаванне кліматам і людской цікаўнасцю прайшлі толькі дваццаць дрэў. У гэтым незвычайным бары — кедр алтайскі, сібірскі і нават карэйскі. Кедравае дрэва жыве да 800 гадоў, і звычайна дарослы кедр пачынае пладаносіць толькі пасля шасцідзесяці гадоў, але на беларускай плантацыі — першы ўраджай арэшкаў будуць збіраць ужо сёлета. Работнікі Веткаўскай лесагаспадаркі збіраюцца ўзяць кедравыя дрэвы пад сваю апеку, каб жадаючыя паласавацца арэшкамі не загубілі ўнікальную пасадку лесу.

**БелТА**



Жыццё

## Па колькасці разводаў Беларусь займае 2-е месца ў свеце

Наперадзе толькі **Расія**.

Каэфіцыент разводаў у краіне складае 4,1 на тысячу жыхароў, паведаміла аўтар «Аналізу тэндэнцый шлюбнасці і разводаў насельніцтва Рэспублікі Беларусь з 1946 па 2010 гады», доктар геаграфічных навук БДУ, прафесар Кацярына Анціпава.

**Найбольшы працэнт разводаў фіксуецца ва Усходняй Беларусі: на Магілёўшчыне і Гомельшчыне »**

У рэйтынгу краін па ўзроўні разводаў, складзеным ААН па выніках 2011 года, Беларусь саступае толькі Расіі, дзе рэгіструецца 4,7 развода на тысячу насельніцтва. На трэцім месцы размясцілася Латвія з каэфіцыентам 4.

У канцы рэйтынгу апынуліся Македонія і Чарнагорыя з каэфіцыентам 0,8, Ямайка (0,7), замыкае рэйтынг Мальта (0,1).

**СГ**



Сцісла

**У 2028 годзе Індыя абгоніць Кітай**

Згодна з амерыканскім дэмаграфічным даследаваннем, Індыя стане самай шматнаселенай краінай у свеце да 2028 года, апярэдзіўшы Кітай. Да таго часу насельніцтва кожнай з гэтых краін будзе складаць прыкладна 1,5 мільярда чалавек. Пасля колькасць індыйцаў працягне рост, а кітайцаў — пачне паступова змяншацца.

**Мядузы сарвалі сусветны рэкорд**

Аўстралійская плыўчыха Хлоя МакКардэл спыніла 160-кіламетровы заплыў паміж Кубай і ЗША праз укусы мядузаў і моцную плынь. Яна мелася пераадолець Фларыдскі праліў за 60 гадзін, усталяваўшы такім чынам сусветны рэкорд па працягласці заплыву ў адкрытай вадзе. Плыўчыха адмовілася ад касцюма, які ахоўвае арганізм ад пераахаладжэння, і клеткі для абароны ад акул. Праз 11 гадзін пасля пачатку заплыву яна была вымушана забрацца на лодку, якая яе суправаджала.

**Беларусь стала сусветным лідарам спаму**

Спам — непажаданыя, найчасцей рэкламныя і вірусныя электронныя лісты, ад якіх церпяць інтэрнэт-карыстальнікі па ўсім свеце. Ад пачатку красавіка з тэрыторыі Беларусі штодня прыходзіць болей за 12 мільёнаў непажаданых паведамленняў. Гэта больш чым у ранейшага лідара — ЗША. Доля спаму ў агульным аб'ёме электроннай карэспандэнцыі Беларусі дасягнула 99%.

**АГ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дзесяць галоў Барыса Пухоўскага (на фота) у гульні са Славеніяй дазволілі нашым гандбалістам выйсці на чэмпіянат Еўропы-2014.


REUTERS

Гэта не вяскоўцы, а зэкі. У калоніі пад Краснаярскам (Расія) утрымліваецца 250 чалавек, асуджаных да пажыццёвага зняволення. Перыядычна зэкаў мабілізуюць на сельгаспрацы.


СЯРГЕЙ ЗІНІН

15—16 чэрвеня ў мінскім Палацы спорту прайшла выстава-шоу грызуноў і зайцападобных «Летнія слядочкі-2013». Былі на ёй вожыкі, бурундукі, шыншылы і шмат хто яшчэ.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Вечарына аматараў «стымпанку» прайшла ў Мінску ў вагоне трамвая. Стымпанк — кірунак навуковай фантастыкі, які мадэлюе цывілізацыю, што ў дасканаласці авалодала механікай і тэхналогіяй паравых машын.

## Анекдоты і жарты

* * *

— А вам шэнген нашто?
— Ад краіны адпачываць...

* * *

Кранаўшчык 6-га разраду, не выходзячы з працы, забраў сына з дзіцячага садка.

* * *

Надзвычай адказны певень, калі ў яго моцна баліць горла, на світанні кідае ў вокны каменьчыкі.

* * *

Трагедыяй скончыўся канцэрт Надзежды Бабкінай — два чалавекі трапілі пад карагод.

* * *

Песіміст адкладае на чорны дзень, аптыміст — на светлую будучыню.

* * *

Раней я расказваў людзям пра свае праблемы. Потым вырашыў, што не варта уздымаць ім настрой такім спосабам.

* * *

— Чаму сланы не карыстаюцца інтэрнэтам?
— Баяцца мышэй.

* * *

Вы выдаляеце зубы без болю? Не заўсёды — учора сабе ледзь руку не вывіхнуў.

* * *

Хлопчык, які займаецца барацьбой і арыгамі, зрабіў жураўліка з гопніка, які прыстаў да яго на вуліцы.

* * *

Брыгада будаўнікоў шукае інтыму. Работы не прапаноўваць.

* * *

Размаўляюць двое музыкаў:
— Я чуў, ты нядаўна ажаніўся?
— Так.
— Ну, і як жонка?
— Кожны дзень канцэрты ладзіць.
— А цешча?
— Цешча ў яе на разагрэве.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Магілёў. Аляксей П., сямейны чалавек, забыўшы стыд, грэх, Бога і свае павіннасці перад сям'ёй,** стаў блудзіць з дзеўкай Т.К. Яго жонка, жадаючы ўсё гэта скасаваць, падпільнавала на дарозе Т.К. і пачала яе біць. Ад таго біцця галава ў дзеўкі не адвалілася, і мужык да кабеты не вярнуўся, але сабе нешчаслівая кабеціна нарабіла бяды, бо тая дзеўка падала ў суд за разбой і грабёж на дарозе.

**«НН». №24—25. 1913.**

**Сакрэтная місія Мясніковіча.** Немагчымае здарылася. У Вашынгтоне адбыліся сакрэтныя беларуска-амерыканскія перамовы. Вёў іх ад імя афіцыйнага Мінска Міхаіл Мясніковіч. Кантакты на дыпламатычным узроўні працягваюцца, як у Беларусі, так і ў ЗША.

**«НН». №23. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 18.06.2013.
Замова №2488.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614